# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 44 29 кастрычніка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2290) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

## *ДЭПУТАТЫ ЗАНЯЛІ ЛАВЫ*



**ДЗЕСЯТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ, ЯКУЮ МЫ ЧАКАЛІ, ПАЧАЛАСЯ 20 КАСТРЫЧНІКА**

**Нягледзячы на працяглыя канікулы, дэпутаты прыйшлі на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, як кажуць, не з пустымі партфелямі. На разгляд і абмеркаванне падрыхтавана дзевяноста пытанняў, галоўныя з якіх — аб Канстытуцыі і аб рэферэндуме. Але нават гэтыя важныя пытанні неяк адышлі на другі план перад новымі. Яны звязаны з далейшым збядненнем народа, беспрацоўем, безупынным ростам цэн і інш. Усяго набегла яшчэ не меней двух дзесяткаў пытанняў, звязаных з нашым надзённым жыццём. Яны паступілі ад дэпутатаў самых розных палітычных арыентацый і плыняў.**

**Ужо ў першы дзень сесіі парламент рэспублікі прыняў пастанову «Аб мінімальнай заработнай плаце». Згодна з гэтым дакументам з 1 лістапада 1992 года яна складзе 2 000 рублёў. Ратыфікаваны таксама Дагавор аб звычайных узбраеннях у Еўропе.**

**У цэлым, калі гаварыць аб сесіі, яна праходзіць спакойна, дзелавіта і канструктыўна, што дае нам надзею на паспяховае вырашэнне, калі не ўсіх, дык многіх задач, якія паставіла перад парламентам наша неспакойнае жыццё. Ва ўсякім разе таго жадаюць усе грамадзяне Беларусі.**

**Фота Ю. БОНДАРАВА.**

# ПОДЗВІГ СКАРЫНЫ

**ВЫСТУПЛЕННЕ МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ П. КРАЎЧАНКІ НА АДКРЫЦЦІ МЕМАРЫЯЛЬНАЙ ДОШКІ Ў ГОНАР Францішка СКАРЫНЫ Ў ПАДУАНСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ 20 КАСТРЫЧНІКА 1992 года**

Шаноўная грамада! Паважаныя спадарыні і спадары!

Беларусы, як і ўсе народы свету, маюць сваіх выдатных сыноў. Фізічна адыходзячы ад нас у вечнасць, яны духоўна застаюцца з намі, сваім існаваннем, прыкладам жыцця, геніяльным яго прадбачаннем яднаюць жывую повязь пакаленняў, вечнасць і неўміручасць нацыянальнага духу, несмяротнасць народа. І ў гэтым — існасць жыцця. Яны—духоўныя правадыры і павадыры нацыі, яе гонар і сумленне, шчасце і радасць, надзея і неўтаймоўны боль яе. Пакуль будзе існаваць жыццё на зямлі, датуль сэрца кожнага беларуса будзе саграваць вечнае сонейка, імя якому — Францішак Скарына.

Хто ён і што было зроблена ім дзеля таго, каб назаўсёды застацца ў памяці народнай?

Сёння, у гэты ўрачысты час, мы з гонарам гаворым пра подзвіг Скарыны і са смуткам —пра яго трагедыю.

Проста немагчыма ўявіць і паверыць у тое, што ўсё, зробленае ім, створана адным чалавекам. Можна дзякаваць лёсу, што ў сярэднявеччы не звязалі гэта з д'ябальскім уплывам і нечалавечым апантанасцю.

Але гэта быў сапраўдны подзвіг у імя нацыі, першы подзвіг на цярністым шляху нацыянальнага Адраджэння і ў той жа час першы прыклад нацыянальнага месіянства. ЁН прыйшоў да свайго знясіленага народа, бо так было трэба. Прыйшоў час яго і час яго народа.

Гэта быў подзвіг, бо ён даў народу СЛОВА, роднае СЛОВА, дарагое для кожнага з нас СЛОВА. Як тут не ўспомніць Біблію: «І першым было слова!» Яго пераклад Святога Пісання на беларускую мову — першы сярод усходнеславянскіх народаў і другі пасля чэшскага, сярод сусветнага славянства. На небасхіле нашай нацыянальнай гісторыі золатам зіхацiць 6 жніўня 1517 года, калі ў Празе-Чэшскай Скарына выдаў першую кнігу на старабеларускай мове «Псалтыр», а ўвогуле менш чым за два гады «пусціў у свет» 22 кнігі Святога Пісання.

Гэта быў подзвіг, бо ён заклаў падмурак нашага гуманізму і талерантнасці, нашай павагі да іншых, значна большай, чым да саміх сябе. Прычым у той час, калі ў Еўропе вера ператварылася ў фанатызм, у сваю знішчальную процілегласць і змрочныя сполахі вогнішчаў аўто-дафэ навадзілі жах на кволых духам і целам.

Гэта быў подзвіг, бо як у чароўнай казцы, дзвюма-трыма кнігамі ЁН адчыніў дзверы і з цемры вывеў людзей на святло, увёў нас у агульналюдскую, агульнаеўрапейскую сям'ю, у пантэон гуманістычнай культуры нашага кантынента, заявіў аб праве беларускага народа на нацыянальна-культурнае вызначэнне.

Мы — еўрапейцы-аўтахтоны і спрадвеку жылі на сваёй зямлі, але паводзілі сябе даволі стрымана, нясмела азіраліся навокал, а тут адразу, адным махам, увайшлі ў агульнаеўрапейскі культурны працэс.

Гэта быў подзвіг, бо Скарына даў народу веды ў сямі навуках «вызваленых», такіх, як граматыка, логіка, рыторыка, фізіка, арыфметыка і геаметрыя, музыка, астраномія.

Гэта быў подзвіг, бо ён першы сярод беларусаў выступіў супраць братазабойства, за тое, каб нацыя, якую раздзіралі на рэлігійныя канфесіі, адчула сябе хоць на нейкі час адным жывым нацыянальным целам, адчула сябе адзіным народам, які потым ворагі на працягу нашай шматпакутнай гісторыі яшчэ не раз «жыўцом ірвалі на кускі» (Я. Купала).

Такім чынам, веліч Скарыны, галоўны сэнс яго дзейнасці заключаецца ў тым, што, даўшы народу роднае слова ў звыклай для яго форме, стварыўшы сумесна з М. Гусоўскім падмурак нацыянальнай літаратуры эпохі Рэнесансу, даўшы «людзям паспалітым» самыя разнастайныя веды, ЁН па сутнасці ўдыхнуў у знясіленыя душы веру ў НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ, зрабіў усё, каб людзі нашы адчулі сябе НАРОДАМ, БЕЛАРУСАМІ.

У жыцці кожнага народа ідуць заўсёды поруч чорнае і белае, светлае і радаснае, змрочнае і трагічнае. Так і ў жыцці чалавека, тым больш такога незвычайнага, як Скарына.

Яшчэ і яшчэ раз варта падкрэсліць трагічнасць Скарыны, нявысветленасць і таямнічасць многіх старонак яго жыцця, супярэчлівасць яго жыццёвага шляху і лёсу. Муза гісторыі — Кліо — здаецца, зрабіла ўсё, каб максімальна ўскладніць вывучэнне жыцця і творчасці Скарыны.

Мы і сёння дакладна не ведаем, калі нарадзіўся наш вялікі гуманіст, хоць большасць даследчыкаў схіляюцца да таго, што гэта шчаслівая падзея прыпадае на 6 сакавіка 1486 года ці на 1490 год і адбылася ў беларускім горадзе Полацку. Мы і сёння, падчас больш чым за 100-годдзе існавання навуковага скарыназнаўства, не ведаем дакладна яго канфесіянальнай прыналежнасці. Нарадзіўшыся ў праваслаўнай купецкай сям'і, атрымаўшы пачатковую адукацыю ў полацкіх манахаў-бернардзінцаў, носячы каталіцкае імя Францішак, у той жа час ён друкаваў свае кнігі кірыліцай, неадназначна падкрэсліваючы, што робіць гэта для праваслаўнага люду.

Думаецца, зусім не выпадкова галоўную справу свайго жыцця — друкаванне першай беларускай кнігі — ён пачаў у праваслаўнае свята ПЕРАСТВАРЭННЯ, якое заўсёды асацыіравалася з АБНАЎЛЕННЕМ. І тут мы маем першы і незвычайна важны прыклад беларускасці. Калі ідэалогія, вера, нязай самыя лепшыя, дзеляць, ірвуць нацыю на часткі, яны павінны быць рашуча адсунуты ўбок і на першае месца павінны выйсці кроўная еднасць, яскравае ўсведамленне таго, што перш за ўсё мы — беларусы, браты па крыві, адзіны народ, а потым—усё астатняе. Думаю, што і ў сённяшніх абставінах самаахвярны прыклад жыцця Скарыны, яго запаветы гучаць вельмі актуальна ў палітычных варунках. Давайце ў гэты светлы час успомнім пра іх і назаўсёды гэта запомнім.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ВЫЗНАЧАЮЦЬ ПАЗІЦЫІ



Напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь заявілі аб сабе ў Мінску адразу дзве палітычныя арганізацыі.

Партыя народнай згоды правяла ў парку імя Горкага святочнае мерапрыемства пад лозунгам «Клічам да згоды». Аднак надвор'е расстроіла планы. Змёрзлым людзям было не да палітыкі, і арганізатары былі вымушаны адмяніць прэзентацыю партыйнай газеты «Згода». Слова прадаставілі беларускаму фальклорнаму ансамблю «Красавік», вакальна-інструментальным ансамблям.

Кіраўнік ансамбля «Ласкавы май» Андрэй Разін быў генеральным спонсарам свята.

На прэс-канферэнцыі лідэры ПНЗ адказалі на пытанні журналістаў і выказаліся за неадкладнае прыняцце на сесіі новай Канстытуцыі, выбарчага закона, назначэння тэрміну парламенцкіх выбараў, за фарміраванне кааліцыйнага ўрада, увядзенне пасады прэзідэнта.

Мітынг арганізаваў і БНФ. Размова ішла аб рэферэндуме, наменклатуршчыках, двухмоўі, падзенні жыццёвага ўзроўню і г. д. Лідэр фронта Зянон Пазьняк, як і трэба было чакаць, падверг рэзкай крытыцы ўрад, заклікаў да яднання ў барацьбе з ім. Тым жа зместам былі напоўнены прамовы іншых выступаючых.

А вось каардынацыйны савет аб'яднання народных дэпутатаў «Беларусь» перад пачаткам работы сесіі звярнуўся праз друк да грамадзян і народных дэпутатаў рэспублікі са зваротам, у якім расказаў аб праграмнай дзейнасці аб'яднання дэпутатаў (усяго больш 100 чалавек), заклікаў «...мацаваць грамадзянскую згоду і ўзаемаразуменне ў грамадстве, не ісці на павадку ў тых безадказных палітыкаў, якія ў барацьбе за ўладу спрабуюць дэстабілізаваць грамадска-палітычную сітуацыю».

НА ЗДЫМКАХ: святочнае мерапрыемства ў парку імя Горкага, арганізаванае ПНЗ; мітынг пад эгідай БНФ.



НА ПАРЛАМЕНЦКІМ РЫНГУ

# НЕЧАКАНАЯ ЗАЯВА

**У першы ж дзень работы сесіі Вярхоўнага Савета беларускі парламент прыйшоў у здранцвенне ад заявы дэпутата Уладзіміра Кавалёнка, вядомага касманаўта, якога называюць героем нацыі.**

**Нечакана ён выступіў з заявай аб складанні сваіх дэпутацкіх паўнамоцтваў. Гэты крок У. Кавалёнак растлумачыў у сваім выступленні, якое мы друкуем цалкам.**

Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь! Паважаны Прэзідыум сесіі Вярхоўнага Савета! Паважаныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь! Амаль 13 гадоў пад зводамі гэтай залы я выконваў абавязкі дэпутата Вярхоўнага Савета і цяпер народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь. Будучы беларусам па нацыянальнасці, дзе б я ні быў, я заўсёды прадстаўляў сваю рэспубліку сумленна і, лічу, служыў савецкаму народу, у тым ліку і народу Беларусі. Але цяпер так склалася, што ў выніку волевыяўлення народа, у тым ліку і нашых народных дэпутатаў, хто сядзіць у гэтай зале, я аказаўся ў другой дзяржаве. І незалежна ад таго, як патрабавалі сёння Баршчэўскі ці Навумчык, каб я пакінуў залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, так склаўся лёс, што беларускі парламент не прыняў двайнога грамадзянства, і гэта наклала сур'ёзны адбітак на далейшае жыццё і праходжанне службы соцень тысяч людзей, якія аказаліся за межамі Беларусі.

Сёння дэпутат з гэтага раду патрабаваў выспятка, прабачце, «пад зад» даць усім, хто не беларускай нацыянальнасці. Вы падумайце пра тых беларусаў, пра сваіх братоў і сясцёр, хто жыве там, за межамі Беларусі. І калі вы думаеце, што ў стане прадаставіць тут пасаду такую ж, такія ж аклады, кватэры і гэтак далей тым, хто жыве за межамі Беларусі, то, прабачце, вы памыляецеся. У гэтых адносінах урад, Вярхоўны Савет і Прэзідэнт Расіі прынялі больш мудрае рашэнне, яны прадаставілі двайное грамадзянства. І гэтым самым вырашылі праблему нацыянальную. Я павінен сказаць дзякуй у тым ліку гэтым кіраўнікам. Таму што мяне як беларуса ацанілі па вартасці і там. І замест таго, каб даць выспятка пад гэты «копчык», мне прапанавалі работу і прызначылі нават 5 жніўня начальнікам Ваенна-паветранай інжынернай акадэміі Расійскай Федэрацыі. Гэта значыць, выказалі поўны давер. Мы славяне, у нас цячэ адна кроў, і мы павінны падумаць на гэтую тэму.

Я павінен і больш сказаць, але, відаць, не варта распаўсюджвацца далей. Я лічу, настаў час адумацца. Я быў тут з першай сесіі, патрабаваў і прасіў прыняць Канстытуцыю. Калі б вы тады прызадумаліся, напэўна, мы сёння не трапілі б у такое становішча. Я заўсёды займаў сваю ўласную пазіцыю. Мяне маглі любіць ці не любіць камуністы, партакраты, арыстакраты, дэмакраты і гэтак далей, але жыццё ў мяне такое, што я заўсёды меў уласны погляд. Я падтрымліваў Беларускі народны фронт, але сёння скажу: у мяне кроў стыне ў жылах, калі я чую, што тут пачынаецца дыктат, калі патрабуюць мысліць і думаць так, як патрабуе Беларускі народны фронт, што мы павінны жыць толькі па аднаму закону, які прапануе Беларускі народны фронт ці лідэры Беларускага народнага фронта. Таварышы, гэта будзе страшней, чым было пры КПСС. Гэта будзе сапраўдны фашызм. І ён прыйдзе, калі мы не апамятаемся сёння, таварышы землякі, беларусы. Давайце ж будзем думаць! (Апладысменты).

Канстытуцыю сапраўды трэба прымаць. Ва ўсім свеце Канстытуцыя вызначае эканамічны і палітычны лад дзяржавы, вызначае перспектыву, куды павінны ісці народ, нацыя ці многанацыянальная дзяржава. А такіх прыкладаў шмат. І толькі ў рамках Канстытуцыі творыцца жыццё, толькі ў рамках Канстытуцыі далей праводзяцца тыя ці іншыя законныя, падзаконныя і іншыя акты.

Сёння я ўдзячны Вярхоўнаму Савету, усім вам за сумесную работу. Мы прарабілі, напэўна, нядрэнны шлях за гэты год. Я іду з пачуццём задавальнення, што Канстытуцыя будзе разглядацца ўсё ж у ліку першых пытанняў. Гэта перамога. А што тычыцца парламента, сапраўды, вялікае бачыцца здалёк. Я з гонарам і радасцю заўсёды адзначаў, што адзіная вольная ад кровапраліцця — гэта Рэспубліка Беларусь. Гэта, напэўна, заслуга і цяперашняга парламента. Быў ён вязкі, нявязкі, разумны, неразумны, але калектыўнае волевыяўленне, калектыўная творчасць заўсёды была разумнейшай. Прабачце, калі я за гэтыя гады дзе-небудзь каго-небудзь пакрыўдзіў, можа быць, у парыве эмацыянальных выступленняў, але я шчаслівы, што працаваў з усімі вамі, што мы былі ў адным страі, што зрабілі тое, што змаглі зрабіць. Дзякуй вам усім. Жадаю вам моцнага здароўя і добрага жыццёвага шляху. Я спадзяюся, што ўсе рашэнні, што прымаюцца вамі, будуць успрыняты народам. Дай вам Бог здароўя і ўсяго вам самага добрага. (Апладысменты).

РЭДКАЯ АПЕРАЦЫЯ

## СЭРЦА НА ДАЛОНІ

**У аддзяленні кардыяхірургіі чацвёртай клінічнай бальніцы Мінска праведзена складанейшая аперацыя на сэрцы.**

**Брыгада медыкаў на чале з загадчыкам аддзялення Юрыем Астроўскім удала ажыццявіла пратэзіраванне ўзыходзячай аорты. Такія аперацыі практыкуюцца ў свеце, аднак у Беларусі да гэтага часу не праводзіліся. Відавочна, нягледзячы на дапатопнае абсталяванне і стаўшую пагалоскай зарплату медыкаў, узровень айчыннай кардыяхірургіі расце. Калі б дазваляла тэхніка, у нашай рэспубліцы даўно ўжо практыкаваліся б і аперацыі па перасадцы сэрца.**

«АКНО Ў ЕЎРОПУ»

## АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА НЕ ТОЛЬКІ ПРАЛЕТАРЫІ

**У Мінску нядаўна адкрылася беларускае аддзяленне Міжнароднай маладзёжнай палаты. Арганізацыя гэта існуе з 1915 года, і яе аддзяленні ёсць ва ўсіх развітых краінах свету. Аб'ядноўвае палата маладых бізнесменаў (узрост членаў абмежаваны статутам) і служыць мэтам наладжвання кантактаў з бізнесменамі розных краін. Па словах прэзідэнта Беларускага аддзялення Рыгора Бальдзюсава, беларускі малы і сярэдні бізнес і цяпер яшчэ аддзяляе ад бізнесу заходняга даволі трывалая сцяна. «Прарубіць акно ў Еўропу» для маладых беларускіх бізнесменаў—галоўная задача новай арганізацыі. І хаця на даны момант яна налічвае ўсяго 18 членаў, прэзідэнт не губляе аптымізму.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ Французскую гаворку зараз можна пачуць у сярэдняй школе № 8 Гродна. Сюды кожны дзень наведваюцца тэлежурналісты з французскага горада Ліможа, якія рыхтуюць амаль гадзінны фільм пра нашу сістэму адукацыі. Гродзенскіх школьнікаў здымаюць на занятках, дома, у вольны час. Дапамагаюць справе чатыры французскія ліцэісты з самога Ліможа. Здаецца, што жыццём нашых школьнікаў на Захадзе цікавяцца не менш, чым у нас.

◆ Брэсцкае гандлёва-прамысловае аб'яднанне «Надзея» прад'явіла канадскай фірме «Глобаў» судовы іск на 80 тысяч долараў. Прычына канфлікту ў тым, што на працягу апошніх некалькіх месяцаў заакіянскія партнёры не аплачваюць прадукцыю брэсцкага прадпрыемства—жаночыя кашулі з натуральных тканін.

◆ Дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі рыхтуецца да новага вельмі адказнага гастрольнага турнэ: беларускіх артыстаў чакаюць у Бельгіі, Галандыі і Францыі. У кастрычніку адправіцца на гастролі Дзяржаўны камерны аркестр. Калектыў выступіць у Германіі, дзе для канцэртаў яму прадастаўляюцца лепшыя залы. А ўсяго з пачатку года больш дзвюх тысяч работнікаў культуры і мастацтва толькі па лініі Міністэрства культуры пабывалі за рубяжом на гастролях, для стажыроўкі і ўдзелу ў міжнародных фестывалях.

◆ Адразу на тры чалавекі павялічылася сям'я 33-гадовай гамяльчанкі К. Перанёсшы складаную аперацыю, жанчына доўгі час не мела дзяцей. Нарэшце яна з мужам звярнулася да ўрачоў. Тыя прапанавалі штучнае апладненне. І вось вынік: на свет з'явіліся хлопчык і дзве дзяўчынкі. Гэта першы выпадак у практыцы гомельскіх урачоў, калі прабірка нарадзіла адразу тройню.

НАВІНКІ СУВЯЗІ

## БЕЛАРУСКАЯ ЭЛЕКТРОННАЯ

**Паўтара года спатрэбілася спецыялістам Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі, каб запрацавала першая беларуская электронна-аўтаматычная тэлефонная станцыя ў Брэсце на тысячу нумароў.**

**Сваю навінку мінчане таксама адгрузілі ў Баранавічы, Расію, Казахстан. Неаспрэчныя яе перавагі перад звычайнымі. Яна змяншае плошчу ў два разы, значна зніжае энергаспажыванне і павялічвае нагрузачную здольнасць, прадастаўляе дадатковыя віды паслуг.**

**Сёлета калектыў аб'яднання збярэ падобных АТС на 80 тысяч эквівалентных нумароў.**

**Пачаты выпуск і офісных электронна-аўтаматычных тэлефонных станцый на 32—90 нумароў.**

*НА ШЛЯХУ ДА РЫНКУ*

# ШТО НАС ЧАКАЕ ЗАЎТРА?

**Як вядома, мова дакументаў—лічбы і факты—сухая і дакладная. Эмоцыям і хваляванням тут не месца. Але гэтая даведка, нягледзячы на звычную бясстраснасць, паражала напавал. Дарэчы, мяркуйце самі: «Беларуская акадэмія мастацтваў з 74 выпускнікоў прапанавала права самастойнага працаўладкавання ўсім. Інстытут культуры—з 77 выпускнікоў не размеркаваны 61 чалавек».**

**Можа, такі сумны лёс напаткаў толькі выпускнікоў гуманітарных навучальных устаноў, якім і раней было нялёгка знайсці сабе працу! Але далейшыя лічбы ўражваюць яшчэ больш: «З 50 выпускнікоў факультэта прыкладной матэматыкі Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі не размеркаваны 48, з 73 выпускнікоў факультэта хіміі Беларускага дзяржаўнага універсітэта 54 павінны працаўладкавацца самастойна». У наш час, калі ўсе, здаецца, толькі тым і займаюцца, што прадаюць і перапрадаюць, з выпускнікоў таваразнаўчых факультэтаў гандлёвага тэхнікума нікому не спатрэбіўся ні адзін з прычыны адсутнасці месцаў.**

**Што ж у рэшце рэшт здарылася! Рэспубліцы не патрэбны адукаваныя людзі! Чым выклікана амаль поўная адсутнасць попыту на маладых, поўных сіл спецыялістаў! І які іх далейшы лёс! З усімі гэтымі пытаннямі мы вырашылі звярнуцца да намесніка старшыні выканкома Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, старшыні камітэта па адукацыі, навуцы, культуры, масаваму спорту і справах моладзі Аляксандру САСНОЎСКАМУ.**




— Такое становішча можна назваць заканамерным, бо доўгія гады мы неразважна падыходзілі да праблемы падрыхтоўкі спецыялістаў. Маўляў, Саюз вялікі, чалавек сабе працу знойдзе, нават, калі зараз у Беларусі ён і не патрэбны. Але хто сёння захоча ад'язджаць з ціхай і спакойнай Беларусі туды, дзе страляюць, дзе ты будзеш чалавекам другога гатунку не з-за таго, што ў цябе будзе не хапаць ведаў, а таму што твая нацыянальнасць некаму не падабаецца? Ды што тут гаварыць, вытокі гэтай праблемы ляжаць ажно ў 60-х гадах. Калі мы прымалі праграму разгорнутага будаўніцтва камунізму, Хрушчоў гаварыў, што трэба дабіцца, каб кожны савецкі чалавек меў вышэйшую адукацыю... У сённяшнім беспрацоўі выпускнікоў вінаватая і канверсія — мы ж дзесяцігоддзямі рыхтавалі, напрыклад, радыёэлектроншчыкаў у разліку на ваенную прамысловасць. Ну, і галоўнае: зараз усе рыхтуюцца да прыватызацыі і акцыяніравання, лішнія людзі нікому не патрэбны, і на прадпрыемствах ідуць скарачэнні штатаў.

**— Дык можа, улічваючы ўсё гэта, нам не трэба столькі вышэйшых навучальных устаноў і спецыялістаў!**

— Так, нядаўна на пасяджэнні ў Савеце Міністраў разглядаліся пытанні вышэйшай і сярэдняй адукацыі. Было прынята рашэнне правесці нешта накшталт «інвентарызацыі» навучальных устаноў, падлічыць, колькі яны рыхтуюць спецыялістаў, а галоўнае, колькі іх патрэбна рэспубліцы. Дарэчы, адно з выйсцяў, як нам падаецца, гэта падрыхтоўка спецыялістаў на кампенсаторнай аснове, заключыўшы пагадненні з іншымі дзяржавамі СНД.

**— Растлумачце, калі ласка, што гэта значыць.**

— Напрыклад, нам патрэбны гарнякі (у нас ёсць Салігорск), але ці мэтазгодна для іх падрыхтоўкі ствараць цэлую навучальную ўстанову? Безумоўна, не. Лепш мы пашлём патрэбную колькасць людзей вучыцца, напрыклад, у былы Ленінград ці ў які іншы горад СНД, дзе ўжо даўно існуе інстытут з традыцыямі, гісторыяй і добрай базай, а ўзамен у сябе падрыхтуем спецыялістаў, напрыклад, па добра развітой у Мінску радыёэлектроніцы.

**— А тых, хто скончыць вышэйшыя навучальныя ўстановы ў наступным годзе, чакае такі ж лёс, ці ім ужо будзе лягчэй!**

— Гэтую сітуацыю за год-два змяніць немагчыма, усё ж звязана з жывымі людзьмі. Скажыце сёння таму ж прафесару, які ўсё жыццё добра выкладаў у інстытуце: ты больш тут не патрэбны... Я думаю, што ўсё нармалізуецца не раней, чым гадоў праз пяць. З наступнага года мы пачнём скарачаць прыём, а зараз усё яшчэ ідзе па інерцыі, бо выпускнікі 1992 года — гэта тыя, хто паступаў у 1987, калі ніхто і думаць не мог, што наша жыццё так абернецца.

**— Ці застанецца адукацыя, як і раней, бясплатнай альбо і тут нас чакаюць сюрпрызы!**

— Зараз разглядаецца пытанне аб платным навучанні. Але, каб мы не пазбавілі магчымасці вучыцца таленавітую моладзь з малазабяспечаных сем'яў, прапанавана наступнае: дзяржава будзе крэдытаваць навучанне асобы, і ў залежнасці ад тваіх поспехаў у вучобе ты будзеш альбо вяртаць крэдыт поўнасцю, альбо часткова, альбо ўвогуле вызваляцца ад выплаты. Гэта дасць роўныя стартавыя магчымасці і таленавітаму хлопцу з малазабяспечанай сям'і, і не вельмі стараннаму з сям'і заможнай.

**— Як вы лічыце, што чакае тых з выпускнікоў гэтага года, хто застаўся без работы! Ці знойдуць яны прымяненне сваім сілам!**

— Я думаю, што трэба было б нам памяняць сваю псіхалогію. У нас прынята лічыць: калі ты атрымаў дыплом, дык стаяць ля станка ўжо не да твару. Ведаеце, я па сабе мяркую: у мяне выбарная пасада: калі раптам нешта здарыцца, пайду працаваць на завод, адкуль, дарэчы, і пачынаў. У мяне ёсць абавязак перад сваёй сям'ёй, дзецьмі, бацькамі, і я павінен яго выконваць. Можна таксама год папрацаваць грузчыкам, сабраць грошы, а потым адкрыць сваю справу. Такіх, як зараз, магчымасцей для бізнесу ў нас ніколі не было і ўжо не будзе.

Мне здаецца, людзі проста разгубіліся, таму што старыя структуры разбурыліся, а новыя яшчэ не пабудаваны — ад аднаго берага ўжо адплылі, а да другога яшчэ не прысталі. Канешне, зараз складана, асабліва тым, каму за сорак. Дарэчы, абагульнены партрэт асноўнай ахвяры беспрацоўя — жанчына сярэдніх гадоў з вышэйшай альбо сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Усё сваё жыццё яна пражыла, ведаючы, што трэба сумленна працаваць, выконваць усе загады, рашэнні і патрбаванні, а пра цябе і твой лёс паклапоцяцца, забяспечаць працай, пенсіяй, медыцынскім абслугоўваннем...

**— І калі ты скончыў універсітэт ці інстытут, то мог быць упэўнены, што твая будучыня забяспечана.**

— Сёння часта гавораць, што ідзе дэвальвацыя вышэйшай адукацыі, але мне здаецца, што гэта вельмі аднабаковы падыход да праблемы. Проста зараз гультаю з вышэйшай адукацыяй будзе куды цяжэй (а можа, і немагчыма) знайсці сабе работу. А на добрага спецыяліста заўсёды будзе попыт. Я нядаўна размаўляў з прадпрымальнікам, які сказаў мне, што добра ведае пра існуючае ў Мінску прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 148, якое рыхтуе сталяроў-чырвонадрэўшчыкаў. Ведае і пра тое, што майстры адтуль выходзяць выдатныя. А паколькі яго бізнес звязаны са сталярнай вытворчасцю, то збіраецца звярнуцца ў вучылішча, прыглядзецца да вучняў, запрасіць да сябе на практыку і даць ім стыпендыю, а можа, і аплаціць кошт іх навучання, з тым каб пасля вучылішча яны пайшлі да яго працаваць. І кожны хлопец у гэтым вучылішчы будзе ведаць, што ён некаму спатрэбіцца і пачне добра зарабляць толькі тады, калі будзе добра вучыцца і стане класным спецыялістам.

**— Як вы асабіста ставіцеся да беспрацоўя!**

— Яно мяне, як і ўсіх, вядома ж, не цешыць. Тым больш, што наша беспрацоўе нельга параўнаць з тым, якое існуе ў краінах Захаду. Там — прафесійнае беспрацоўе, калі, скажам, токар не хоча ісці працаваць слесарам і чакае гадамі сваёй працы ці перавучваецца. А ў нас пакуль што няма прадуманай і развітой сістэмы перападрыхтоўкі кадраў, няма яшчэ добрых спецыялістаў, не адпрацаваны і прававы механізм.

Але ўвогуле, на маю думку, невялікае беспрацоўе нам нават не пашкодзіць, як свайго роду «раздражняльнік». А наяўнасць свабоднага рынку працы дазволіць выкарыстаць лепшыя сілы грамадства.

**Гэтае інтэрв'ю ў мяне самой пакінула дваістае пачуццё. З аднаго боку, я цалкам згодна з Аляксандрам Сасноўскім адносна таго, што беспрацоўе (канешне, не ў такіх памерах, калі яно ператвараецца ў агульнанацыянальную праблему), можа, не так ужо і страшнае, тым больш для грамадства, дзе людзі прывыклі «лічыцца», а не працаваць, дзе раней, скончыўшы вышэйшую навучальную ўстанову, ты, калі не з'яўляўся, дык хаця б называўся спецыялістам,—гэта было гарантавана дыпломам, якому даўным-даўно надалі зневажальную мянушку «корачкі», нібы падкрэсліваючы гэтым, што ў краіне цэняцца не веды, а паперка. Маладому чалавеку адчуць сябе «лішнім» і нікому не патрэбным вельмі балюча, бо ўпершыню даводзіцца змагацца за месца пад сонцам, і зброя тут не кулакі і локці, а здольнасці, талент і веды. Так, цяжка... але ж давайце ўспомнім, як настаўнікі з класа ў клас «цягнулі» безнадзейнага двоечніка, які мог зневажальна кінуць педагогу: «А ты вучы мяне, вам за гэта грошы плацяць». І вучылі, таму што ў краіне была абавязковая сярэдняя адукацыя... Мы былі незадаволены, калі гультаёў гвалтам цягнулі да «ззяючых вышынь ведаў», а сёння зноў забываем, што зрабіць чалавека інтэлігентным і адукаваным супраць яго волі немагчыма. А самае галоўнае—па-іншаму ўжо ніколі не будзе, хочаш не хочаш, а мусіш прызвычайвацца да новых умоў жыцця, і не сядзець склаўшы рукі, а даказваць, што ты нечага варты.**

**Так, усё так. Але ж нешта не давала спакою і прымушала зноў вяртацца да гэтай тэмы. У чым справа, думала я. Невялікае беспрацоўе—гэта нават добра, самі ж гаворым: баяліся б за сваё месца—працавалі б лепей. Да таго ж, напэўна, гэта сапраўды адзінае выйсце і неабходны працэс, у якім, на жаль, магчымыя выдаткі... Выдаткі! Ці не ў гэтым справа! А калі «выдаткам» раптам прыйдзецца стаць самому ці самой— «жанчыне сярэдніх гадоў з вышэйшай альбо сярэдняй спецыяльнай адукацыяй»! Аднойчы ўжо параненае, грамадства нарадзіла ў сваім імкненні абараніцца ад рэчаіснасці жудасную фразу: лес сякуць—трэскі ляцяць. І час, калі нарадзіўся гэты нядобрай памяці афарызм, большасць з нас успамінаюць, хто з горыччу, хто з нянавісцю, хто з непраходзячым болем. Але чым лепшы дзень сённяшні, калі грамадства, прасякаючы дарогу ў невядомае рынічнае заўтра, пакідае на сваім шляху не кучы—горы ўсё тых жа «трэсак»— старых, малых, інвалідаў, а цяпер і маладых, поўных сіл і жадання працаваць (і зарабляць) людзей...**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

500 гадоў споўнілася сёлета беларускаму гораду Жлобіну. Зусім дастойная падстава для арганізацыі агульнагарадскога свята, што і планавалася зрабіць. Яшчэ ў студзені 1991 года адбылося пашыранае пасяджэнне гарадскога штаба па падрыхтоўцы святкавання юбілею. На ім было прынята, як тады ўсім здавалася, цвёрдае рашэнне: свята праводзіць, нягледзячы на цяжкасці, якія перажывае эканоміка горада. Быў створаны і арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню мерапрыемства на чале са старшынёй гарвыканкома. Прадугледжвалася зрабіць за паўтара года, што заставаліся, рэканструкцыю многіх вуліц горада, Прыдняпроўскага парку, дзе, на думку краязнаўцаў, былі першыя паселішчы і дзе (па Дняпры) праходзіў у старажытнасці вядомы гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі».

## ЮБІЛЕЙ, ЯКІ НЕ ПА КІШЭНІ

Прадугледжваўся і шэраг іншых мерапрыемстваў, у тым ліку закладка новага парку ў гонар юбілею, правядзенне шматлікіх выставак і конкурсаў. Планавалася запрасіць на свята гасцей. Але жыццё ўнесла свае жорсткія карэктывы. Большасць з задуманага засталося на паперы. Да гэтага часу не завершана рэканструкцыя галоўнай і самай старажытнай вуліцы горада Першамайскай, не дайшлі рукі да Прыдняпроўскага парку. Не адбылося і кульмінацыі юбілею — агульнагарадскога свята (апошні каляндарны тэрмін для яго правядзення — верасень — даўно закончыўся). А прычынай такога сумнага фіналу запланаванага мерапрыемства стаў недахоп фінансавых сродкаў. Сёння, калі гарадскія ўлады ламаюць галаву, дзе ўзяць грошы на датацыі харчавання школьнікаў, утрыманне дзіцячых садзікаў, падрыхтоўку горада да зімы, ніхто проста не асмельваецца нават і ўспомніць аб запланаваным некалі святе. Не выратавалі становішча і такія прамысловыя гіганты, размешчаныя ў горадзе, як Беларускі металургічны завод і Вытворчае аб'яднанне штучнага футра. Ім зараз таксама не да святаў: не спыніць бы канчаткова сваю вытворчасць.

І тым не менш гэты юбілейны год застанецца ў памяці жлабінчан, бо ўсё-такі ў горадзе прайшлі шматлікія выстаўкі жлобінскіх мастакоў, умельцаў, адбыліся канцэртныя праграмы мясцовых артыстаў і музыкантаў, прымеркаваныя менавіта да юбілею. Выйшлі ў свет кнігі, прысвечаныя гэтай знамянальнай даце: гісторыка-эканамічны нарыс Леаніда Анопа «Жлобін» (выдавецтва «Беларусь»), нарысы пра ганаровых грамадзян Жлобіна Алеся Марціновіча «Жыццё прыгожае пражыць» (Жлобінская ўзбуйненая друкарня). Некалькі кніг сваіх мастацкіх твораў з прысвячэннямі слаўнай даце падрыхтаваў да друку адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, які родам са Жлобіншчыны, Аляксандр Капусцін.

Гісторыя Жлобіна пачала адмерваць сваё шостае стагоддзе.

Мікалай ШУКАНАЎ.

# ПОДЗВІГ СКАРЫНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Белае і чорнае... Подзвіг, трыумф і трагедыя. Не многа знойдзецца людзей, якім быў наканаваны такі нялітасцівы і жорсткі лёс. Нястачы, практычна беднасць, вечныя вандроўкі па ўсёй Еўропе, смерць бацькоў, арышт брата ў Познані, заўчасная смерць жонкі Маргарыты, трагічная смерць малодшага і горача любімага сыночка Францішка, які загінуў, як сведчаць архіўныя дакументы, 2 чэрвеня 1541 года ў час пажару ў Празе ў доме сябра Скарыны — святара кафедры святога Віта, каноніка Вышаградскага Яна з Пухава—ці не замнога гэта для аднаго чалавека? А калі дадаць да гэтага шмат складанасцей, звязаных з лёсам яго кніг, з іх знішчэннем цемрашальным духавенствам у Маскве, складанасцямі віленскага перыяду жыцця нашага першадрукара і асветніка, то ўзнікае пытанне: як усё гэта можна было вытрываць?

Такім чынам, паўстае не толькі трагедыя асобы, але і трагедыя нацыі, якая так і не ведае, дзе, як і калі адышоў у вечнасць, у неўміручасць Францішак Скарына, гістарычная постаць якога не мае сабе роўных.

Вось чаму для кожнага свядомага беларуса «старыя камяні Еўропы» — Полацка і Вільні, Кракава і Падуі, Прагі і Капенгагена, Кёнінгсберга і Вітэнберга (там ён, відаць, сустракаўся з Марцінам Лютэрам) —святыня ў поўным сэнсе гэтага слова, своеасаблівая «духоўная Мекка», ім хоць раз у жыцці трэба абавязкова пакланіцца. Так, для нас з'яўляецца святой зямля братняй Чэхіі, дзе спачывае прах Францішка Скарыны. Для нас з'яўляецца святым і ўсё тое, што звязана ў Падуі з імем беларускага першадрукара і асветніка. Вось чаму з такім хваляваннем і радасцю мы сёння знаходзімся тут, у сусветна вядомым Падуанскім універсітэце, дзе некалі ступала нага Скарыны, моцна гучаў яго малады голас, адбылася ўрачыстасць атрымання ганаровага звання доктара медыцыны.

Што ўяўляў сабою Падуанскі універсітэт у XV—XVI стагоддзях? Нам здаецца, што ў гэты час ён далёка апярэджваў іншыя італьянскія універсітэты, не выключаючы і знакамітай Балонні, і зрабіўся сапраўдным «сусветным светачам», адным з найбольш важкіх міжнародных і культурных асяродкаў. У той жа час Падуанскі універсітэт быў тыповым італьянскім універсітэтам, які прынцыпова адрозніваўся ад іншых заходнееўрапейскіх навучальных устаноў, у першую чаргу ад Сарбоны.

У Парыжы — багаслоўе, прафесарскае кіраўніцтва, напалову кляштарнае жыццё «ў бурсах», непарушнасць аўтарытэтаў; у італьянскіх універсітэтах, перш за ўсё ў Падуі і Балонні, — вывучэнне права, студэнцкае кіраўніцтва, жыццё на вольных кватэрах, свабода ў вывучэнні і выкладанні. Глыбокая розніца абодвух тыпаў, урэшце, выявілася ў адносінах да чужакоў і чужаземцаў. Толькі італьянскія універсітэты прымалі іх, пры гэтым з самага пачатку — на аднолькавых правах. Найбольш «італьянскім» універсітэтам быў Падуанскі, чым і тлумачацца хуткія і няўхільныя яго поспехі.

Другая, не менш важная прычына — сувязь яго з Венецыяй, хутчэй за ўсё залежнасць ад яе. Пасля доўгай і ўпартай барацьбы Венецыя ўсё ж здолела заўладаць «Сухазем'ем». Для Венецыі альтэрнатывы не было: «Сухазем'е» — гэта не столькі пытанне ўлады, колькі хлеба і транспартных камунікацый.

Гэтыя падзеі далі магчымасць атрымаць з Венецыі значныя фінансавыя асігнаванні. Гуманіст Мазагая праз дзесяць год пасля далучэння Падуі да Венецыі прыходзіць у захапленне ад тых «нечуваных шчодрасцей», якія пасыпаліся на Падуанскі універсітэт. Ён атрымаў стары палац падуанскіх герцагаў Карар, якіх скінула Венецыя, а ў 1468 годзе — статут «дзяржаўнага». Усё гэта дало яму магчымасць хутка ператварыцца ў прызнаны цэнтр гуманізму, рэнесансу, талерантнасці. У 1497 годзе тут была заснавана кафедра па вывучэнню твораў Арыстоцеля. Выкладаецца грэцкая, яўрэйская і арабская мовы. Пашыраецца і ўмацоўваецца авераізм, прыхільнікам якога быў і Скарына. Сюды, у Падую, накіроўваюцца сотні студэнтаў практычна з усіх краін, і больш за ўсё з Германіі (па некаторых даных, — да 59 працэнтаў ад колькасці іншаземных студэнтаў). Ідэі і творы М. Лютэра пранікаюць сюды так моцна, што ў данясенні ў Ватыкан ад 26 лістапада 1521 года падкрэсліваецца наступнае: «Зараза гэтая настолькі пашырылася ў Падуі, што няма ніводнага адукаванага чалавека, які б не быў лютэранцам». Не выпадкова пасля паражэння вялікага сялянскага паўстання 1525 года адзін з яго правадыроў, Міхайла Гэйсмайр, быў вымушаны ўцякаць з Зальцбурга, але спакойна жыў у Падуі.

Прыцягальнымі для еўрапейскай моладзі былі славутыя постаці універсітэцкіх выкладчыкаў. Імі былі падуанскія светачы — Піліпо Дэчыо, дэй Сочыні, Францэска Курсіо, Антоніо Россі, Марко Мантуа Бэнавідэс, Тыбэрыо Дэчыяно, Джованні Чэфале, Францэска Мантыка, Джакомо Мэнокіо, Гвідо Панчыролё. Не будзем забываць, што амаль два дзесяцігоддзі ў якасці прафесара матэматыку тут выкладаў Галілей. Прафесар Джыролямо д'Аквапэнтэнтэ практычна закончыў распрацоўку тэорыі цыркуляцыі крыві, якую потым дапрацаваў (але не «адкрыў», як гэта часта сцвярджаецца) англійскі навуковец Гервей.

Варта, урэшце, прыгадаць некалькі імён славутых выхаванцаў Падуі — Піко дэлла Мірандоля, Францэска Гвічыардзіні, Пандольфа Коленчыё, Гвіда Панчыролё (ён жа потым і прафесар), П'етро Бэмбо, Джавані Навіцыяна; пап і кардыналаў (Аляксандр VIII, Францэска дэлла Роверэ — ён жа Папа Рымскі, Сіксцін IV, Сарпі), каралёў (Ян Сабескі, Густаў Шведскі, Стэфан Баторый), паэтаў і драматургаў (Як Каханоўскі, Піліп Сідней, Тарквата Таса, Лёдавіка Арыёса). З Падуанскім універсітэтам звязаны асобы Тамаза Кампанелы, Эразма Ратэрдамскага, Мікалая Каперніка і іншых, што праславілі эпоху Адраджэння. Асаблівай увагі заслугоўвае прадстаўніца прыгожай паловы чалавецтва Алена Лукрэцыя Карнара Піскапія, якая ў 1678 годзе атрымала ў Падуанскім універсітэце ступень доктара філасофіі і, такім чынам, была першай жанчынай, якая атрымала універсітэцкую адукацыю. Варта назваць і Пятра Поснікава, выхадца з Расіі, які першы з рускіх атрымаў ступень доктара медыцыны (1694) г.).

Такія славутыя імёны і традыцыі спараджалі і новыя кнігі. Мы глыбока перакананы, што ў Падуанскім універсітэце добра ведалі выданні славутага венецыянскага друкара Альда Мануцыя, які зрабіў цэлую «рэвалюцыю» ў кнігадрукаванні, рашуча перайшоўшы на фармат, які быў найбольш зручным для людзей, зрабіў кнігу сапраўды даступнай. Не выпадкова Скарына выбраў для «Малой падарожнай кніжкі», выдадзенай у 1522 годзе ў Вільні, менавіта такі невялікі фармат. Прыгадаем, дарэчы, што Эразм Ратэрдамскі сказаў аб друкарскім знаку Альда Мануцыя (дэльфін, які абвіўся вакол якара, — сімвал рухомасці), што ён «мае большае значэнне, чым імператарскі герб на манетах».

Пасля ўсяго сказанага ці варта здзіўляцца, чаму менавіта ў Падую накіраваўся наш славуты зямляк. Упэўнены, што гэта было не выпадкова, гэта быў асэнсаваны выбар.

Як быў сустрэты ў Падуі беларускі юнак? Што адбылося тут у прыкладна такія ж кастрычніцкія дні 1512 года? Давайце дадзім слова сярэдневяковаму летапісцу, давайце паслухаем яго:

**ЕЗУС МАРЫЯ
ПРЫСВАЕННЕ ЗВАННЯ
Ў ГАЛІНЕ
МЕДЫЦЫНЫ, З ЛАСКІ БОЖАЙ,
МАГІСТРУ ФРАНЦЫСКУ,
РУСІНУ, СЫНУ НЯБОЖЧЫКА
ПАНА ЛУКІ**

У імя Хрыста, амін. У год ад яго нараджэння тысяча пяцьсот дванаццаты, індыкта XV, у пятніцу, пятага лістапада, у Падуі, у храме святога Урбана а гадзіне 17-й на скліканай і ў звычайным парадку сабранай святой Калегіі слаўнейшых падуанскіх дактароў мастацтваў і медыцыны па даручэнню найдастойнейшага доктара мастацтваў і медыцыны пана Тадэя Мусаці, віцэ-прыёра вышэйназванай Калегіі, са згоды райцаў указанай Калегіі, на ўводным слове прыёр сказаў: «Найдастойнейшыя паны дактары! Прычына склікання Вашых дастойнасцей наступная: прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны родам з надзвычай далёкіх краёў, магчыма, на чатыры тысячы міляў і больш ад гэтага слаўнага горада, для таго каб узвялічыць славу і бляск Падуі, а таксама красуючай супольнасці філосафаў гімназіі і святой нашай Калегіі. Ён звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца, з ласкі Божай, выпрабаваннем у галіне медыцыны пры гэтай святой Калегіі. Калі, Вашы дастойнасці, дазволіце, прадстаўляю яго самога. Малады чалавек і вышэйзгаданы доктар носіць імя пана Францыска, сына нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка, русін».

Пасля гэтага запрасілі магістра Францыска, і ён пакорліва і ветліва прасіў, з ласкі Божай, дапусціць яго да выпрабаванняў па медыцыне, як было вышэй сказана выступаўшым раней панам віцэ-прыёрам. Ён абяцаў шырыць усюды славу, гонар і карысць гэтай Калегіі і кожнага з дактароў паасобку.

Пасля гэтых слоў Калегія прыступіла да абмеркавання і апытвання яго. Вышэйзгаданы пан віцэ-прыёр сказаў: «Паны дактары, вы выслухалі гэтага беднага і вучонага юнака. Калі хто-небудзь хацеў бы што-небудзь сказаць, няхай устане і скажа, дапоўніць яго». І нарэшце, пасля шматлікіх прамоў і выказванняў гэтых паноў дактароў, пан віцэ-прыёр сказаў асобам ніжэйназваным галасаваць такім спосабам, а іменна: «Хто згаджаецца, каб гэтаму пану Францыску надаць, з ласкі Божай, медыцынскую годнасць пры захаванні ўсіх патрабаванняў, хай кіне свой голас у урну пацвярджальную, чырвоную; хто не згаджаецца, хай кіне ў адмоўную, зялёную». І праведзенае такім чынам галасаванне не дало ніводнага голасу супраць.

І яшчэ адно выпрабаванне.

«Асобы экзамен па медыцыне пана магістра Францыска, русіна, 1512 (год), у аўторак, дзевятага лістапада, ва ўстаноўленым месцы Епіскапскага палаца ў Падуі.

Ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага свайго строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў аднадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння, і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны».

І ў рэшце рэшт дастойны фінал:

«1512 (год), індыкта XV. У аўторак, 9 лістапада месяца. Асобы экзамен у галіне медыцыны знакамітага мужа пана магістра Францыска, сына нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русіна, сакратара караля Дацыі. У прысутнасці архіепіскапа яснавяльможнага пана суфрагана і вікарыя славутая Калегія паноў (майстроў) мастацтваў Падуі пры ўдзеле дастойнага мастацтваў і медыцыны доктара пана магістра Францыска Фуманэлі, віцэ-рэктара універсістэта (майстроў) мастацтваў экзаменавала. Усе былі аднадушныя і згодныя, без ніводнага голасу супраць, каб годнасць (Скарыны) у галіне медыцыны прызнаць. Пад апекаю сваіх прамотараў дактароў мастацтваў і медыцыны паноў магістраў Барталамея Барызона, які ўручыў знакі (доктара медыцыны). (Знакамі медыцынскай годнасці ў тыя часы звычайна былі круглы берэт ці чатырохрогая шапачка, пярсцёнак, кніга «Афарызмы» Гіпакрата ці Біблія).

Давайце ў гэты ўрачысты момант яшчэ раз успомнім добрым словам усіх тых прафесараў і настаўнікаў Ф. Скарыны, якія яго экзаменавалі, кіраўніцтва Падуанскага універсітэта і, асабліва, віцэ-прыёра тагачаснай калегіі Тадэя Мусаці, які вызваліў беднага юнака ад непасільнай аплаты за экзамен. Адзначым, што ў той час гэта рабілася толькі для самых таленавітых і, па некаторых даных, не ахоплівала больш 5 працэнтаў студэнтаў.

Падсумоўваючы сказанае, хацелася б падкрэсліць унікальнасць таго часу, які выклікаў да жыцця такіх волатаў нацыянальнага духу, як Францішак Скарына. Унікальны час нараджаў унікальных людзей, галоўнымі рысамі якіх былі:

**Самаахвярнасць,** імкненне ўсяго сябе аддаць свайму народу; імкненне да

**Кансалідацыі** беларускай народнасці, чаму ў немалой ступені садзейнічаў пераклад Біблії на «руський язык», гэта значыць. на старабеларускую мову. Яна перастала быць «Lingua vulgaris», а ўзвышалася, ставілася ўпоравень з такімі «свяшчэннымі» мовамі, як стараяўрэйская, грэчаская, лацінская;

**Апантанасць** у працы незвычайная як па тагачасных, так і па сягонняшніх мерках. Цяжка ўявіць, як змог Ф. Скарына ў лічаныя месяцы падрыхтаваць да выдання тэксты некалькіх кніг і аздабленне (ілюстрацыі, застаўкі, буквіцы, двухколерны друк і г. д.). Не забудзем, што кожная з кніг Скарыны — шэдэўр еўрапейскага выдавецкага мастацтва;

**Рэвалюцыйнасць** Скарыны, яго дух першапраходніцтва і барацьбы. Трэба было мець грамадзянскую мужнасць, каб перагледзець кананічныя падыходы, даць народу Біблію на зразумелай яму мове. У той час у Еўропе быў яшчэ моцны дух сярэдневякоўя. Прыгадаем, што ў 1526 годзе ў Англіі павесілі Цындаля, які хацеў выдаць на роднай мове Новы запавет;

**Інтэлігентнасць** Скарыны, яго велізарная духоўнасць і ўзнёсласць;

**Нацыянальны** характар яго дзейнасці, творчасці, жыцця. Няшмат знойдзецца людзей, якія б так дакладна, трапна, аўтэнтычна адлюстравалі ў сваіх кнігах лепшыя якасці нашага народа — стрыманасць, працавітасць, ветлівасць і талерантнасць. Любоў Скарыны да свайго народа, да роднай мовы, аднак, нідзе не перарастала ў нацыянальны эгаізм ці эгацэнтрызм;

**Асветніцтва** Скарыны, яго імкненне падзяліцца з простымі людзьмі ўсім тым лепшым, што ёсць у свеце. І зноў мы павінны ўспомніць яго прадмовы да кніг, па сутнасці, арыгінальныя філасофскія творы, скарбніцу мудрасці, якія ў той час былі своеасаблівымі энцыклапедыямі, даведнікамі, першакрыніцамі ведаў для простага селяніна ці мешчаніна.

Пра подзвіг Скарыны можна гаварыць бясконца. Прыемна, што ў сваёй працы, лёсавызначальнай для нашага народа, ён быў не адзін. Услед за ім ужо ўздымаюцца магутныя постаці асветнікаў і філосафаў, пісьменнікаў і перакладчыкаў Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага, Янкі Купалы, Якуба Коласа.

Вельмі прыемна тут, у Італіі, успомніць і аддаць належнае сучасніку Скарыны, нашаму выдатнаму паэту Міколу Гусоўскаму, які ў час свайго дыпламатычнага падарожжа ў Рым пазнаёміўся з самымі славутымі людзьмі той эпохі, у тым ліку з папам Львом X. Менавіта ён выказаў жаданне атрымаць у дар чучала небачанага ніколі ў Італіі звера — зубра і апісанне палявання на яго. Так з'явілася на свет адна з лепшых паэм таго часу — «Песня пра зубра», напісаная на лаціне.

Сёння, адкрываючы мемарыяльную дошку ў гонар Скарыны, вы можаце ўбачыць, як выглядае гэты магутны і дзівосны звер, у нейкім сэнсе сімвал нашай нацыі.

Падкрэслім, што, як і Скарына, М. Гусоўскі быў вельмі адукаваным чалавекам. Ёсць звесткі, што 1 сакавіка 1520 года ў Балонскім універсітэце ён атрымаў ступень доктара філасофіі.

Белае і чорнае... Подзвіг, трыумф і трагедыя. Як усё гэта характэрна для нашага шматпакутнага народа! Але нягледзячы на нясцерпныя выпрабаванні, войны, нацыянальныя здзекі з боку суседніх народаў, знішчэнне, здаецца, ушчэнт нацыянальнай культуры, ён выстаяў і перамог. Выстаяў дзякуючы таму, што на нацыянальным небасхіле заўсёды зіхацела нязгасная зорка Скарыны.

Сусветная слава сёння не грэе Францішка Скарыну, але яна патрэбна яго народу. Цяпер, як ніколі, калі мы ствараем незалежную дзяржаву, дзяржаву ва ўлонні Новай Еўропы, нам патрэбна такое нацыянальнае духоўнае апірышча, як ідэі і запаветы Скарыны.

Я мару пра тое, што некалі здзейсніцца амаль немагчымае: мы знойдзем святы прах Францішка Скарыны. Знойдзем і з гонарам перанясём у Нацыянальны Пантэон, які павінна мець кожная цывілізаваная нацыя. Перанясём туды ўсіх тых, хто з'яўляецца гонарам і сумленнем нацыі. Перанясём, каб ніколі не забываць пра продкаў, пра свае карані, пра сваю чалавечую годнасць, пра тое, што мы мацнеем як НАРОД.

Калі ў людзей ёсць такая мэта, такая мара, упэўнены, што яна павінна рана ці позна здзейсніцца.

У заключэнне хачу шчыра падзякаваць усім тым, хто спрыяў арганізацыі гэтага мерапрыемства, прафесарам, выкладчыкам і студэнтам Падуанскага універсітэта.

Словы сардэчнай павагі хачу выказаць кіраўніцтву універсітэта, асабліва яго рэктару спадару Бонсамб'янтэ.

Шчырае дзякуй за ўвагу!

Эмілія КАЗАК – КАЗАКЕВІЧ

# МОЙ ЖЫЦЦЯПІС



Я хацела пакінуць Індру і паехаць працаваць у Рыгу, але памёр бацька, і трэба было дапамагаць маці. Прыехала ў Індру, вучні маёй клясы спаткалі мяне на станцыі, а ў школе прыйшлося з імі з'есці кавалак торту, бо тут яны мяне віталі з хлебам-соллю. Была прыемнай такая сустрэча з вучнямі. Магонісу мой прыезд не спадабаўся. Калі ён мяне ўбачыў, то ад здзіўлення нават прыпыніўся, не верачы сваім вачам. Ён быў перакананы, што мяне больш ніколі не пабачыць.

У Індры было многа немцаў. Былі і латышы. Сядзела я ціха, асабліва ўвечары, баялася папасці другі раз у лапы немцаў.

Пабываў у часе акупацыі ў Індраўскай школе Міхась Забэйда-Суміцкі са сваім рэпэртуарам беларускіх народных песняў. Ён падарыў нам шмат прыемных і радасных хвілін. Сам ён быў вясёлы, сардэчны, і ў нас было такое пачуццё, што мы з ім знаёмы з даўніх часоў. Ён прыгожа гаварыў па-беларуску, жартаваў, смяяўся, усіх нас называў сястрычкамі. І яшчэ за сталом, пасля выступлення, праспяваў нам дзве песні. Добрае ўражанне і памяць аб ім застануцца назаўсёды ў многіх беларусаў таго часу, якія з ім пазнаёміліся. Удалося дастаць і пласцінку з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага.

Жыццё ў Індры становілася ўсё больш небяспечным. Сярод немцаў адчувалася трывога. Стральба чулася ўсё бліжэй і бліжэй. Латышы з Індры выязджалі.

24 чэрвеня 1944 года Індра была вызвалена ад нямецкіх захопнікаў. Праз некалькі дзён быў вольны і Дзвінск. Настаўнікаў запрасілі туды і загадалі падгатаўляць школы да заняткаў. Да Даўгаўпілса дабіраліся, як хто мог. Большасць на веласіпедах. Горад быў разрушаны да непазнавальнасці. Па ўсім горадзе ляжалі груды цэглаў, і яшчэ не ўсе былі захаронены трупы. Цяжка было глядзець на гэты горад, у якім я правучылася 8 гадоў, але ён ужо пачынаў ажываць.

Атрымаўшы назначэнне, я прыехала працаваць у Індраўскую школу. Латышы з Індры выехалі. Школа была рускай. Знаёмых настаўнікаў не было. Дырэктарам школы спачатку быў Сарачынскі, а пасля Драбкоў А. З. Настаўнікі мяняліся часта. Амаль усе яны прыехалі з СССР. Пачаліся працавітыя клопаты. Жыццё наладжвалася на новы лад. Непрыкметна прыйшла вясна. Настаў Дзень Перамогі. Людзі радаваліся, жадалі адзін другому шчасця, між усімі была прыязнасць. Сонца было цяплейшае і мілейшае. Радасць была вялікай, асабліва ў тых, хто выжыў, вытрымаў усе жыццёвыя буры і вярнуўся дамоў. Так досыць спакойна і нармальна працякала жыццё ў школе.

У 1948 годзе ў Індру прыехаў нейкі Пятроў, які пачаў працаваць парторгам. Ён нават не глядзеў на людзей. У настаўнікаў ён прымаў залікі па гісторыі ВКП(б). Адвярнуўшыся і гледзячы ў вакно, ён слухаў адказы. Многае было незразумелым і нязвычным. Людзі былі напалоханы. Як пазней высветлілася, састаўляліся спісы для вывазаў, якія і пачаліся 25 сакавіка 1949 года[1]. Маці, якой было ўжо за 70, і сястру 53-х гадоў залічылі ў кулакі. Ноччу прыехалі, забралі іх, прывезлі на Індру і пагрузілі ў вагон. Калі я прыйшла са школы а гадзіне 12-й ночы, за мной прыйшоў Сілюцін і сказаў, што мяне выклікаюць у сельсавет. Я машынальна працягнула руку за кашальком, які ляжаў на стале, але і гэтага Сілюцін мне не дазволіў узяць. Ён завёў мяне ў вагон, дзе ўжо былі маці і сястра. Мяне абвінавацілі ў тым, што я член кулацкай сям'і. Таму парторгу Пятрову пазней самому далі 25 гадоў турмы.

Як потым выявілася, зямлі маці было прыпісана мо ў тры разы больш. Усякіх неўспадзевак я магла чакаць у жыцці, але вывазаў ніколі. За што? За тое, што бацька ўсё жыццё змагаўся з царскай уладай, што ўвесь час арандаваў зямлю, брат служыў у савецкай міліцыі? Я ад бацькі пераняла яго погляды, у гімназіі іх замацавала. І калі прыйшла Чырвоная Армія, я шчыра радавалася. Здавалася, радасці не будзе канца. Я чакала, каб хутчэй былі калгасы, каб звольніцца ад непасільнай працы на хутары, каб маці і сястра маглі жыць, як і ўсе людзі, не думаць аб конях, плугах, аб тым, як заплаціць падаткі. Ведала, што будуць арганізаваны калгасы. Першая падала заяву, каб маці і сястру прынялі ў калгас. Замест адказу — вывазы.

Як толькі цягнік рушыўся з Індры, сэрца балюча зашчаміла, было сумна і тужліва, сіл не было стаяць, не магла гаварыць. Вучні маёй клясы, даведаўшыся, дзе я, прыйшлі развітацца са мной. Дзяўчаты плакалі, калі цягнік рушыўся з мейсца. Разам са мной ехала і некалькі вучняў. Калі цягнік набіраў сілу, людзі ў вагонах плакалі, крычалі, маліліся.

І вось: пакуль я даехала да Бігосава — усяго ад Індры 14 кіламетраў, — я пасівела. Адна вучаніца з Індраўскай школы падышла да мяне і сказала, што ў мяне валасы ў муцэ. Ніякай мукі ў мяне не было. Адшукаўся абломак люстэрка, які мне падалі. Я ўбачыла свае сівыя валасы. Ніхто не хацеў гэтаму верыць, але ж усе пераканаліся. Гэта, безумоўна, дробязі, з другімі было шмат горш, бо нялёгка было пад прымусам пакідаць свой родны кут і ехаць у невядомасць.

Нас вывезлі ў Омскую вобласць (Каласоўскі раён, саўгас імя Чапаева). У саўгасе было многа балот, вазёр. Хаты былі пакрыты дзёрнам. Гразь была наўкола. На кожным кроку чулася лаянка, ад якой, здавалася, ня вытрымаюць барабанныя перапонкі. Ніколі яшчэ так самотна не было на сэрцы.

Быкоў, упрэжаных у нагружаныя вазы, білі палкамі... Як было ўсяму гэтаму паверыць?

Сярод вывезеных у гэты саўгас амаль усе былі беларусы. Гэта тыя гаспадары, якія мелі кавалак сваёй зямлі, гэта тыя работнікі, якія працавалі ў гаспадароў. Усе былі з Латгаліі, а ў Латгаліі багатых не было.

Каля трох месяцаў я працавала настаўніцай у школе. Выкладала нямецкую мову. У гэты час, мусіць за ўсе астатнія 20 год, упершыню прыехала інспектар Хіруменка (казалі, што з Масквы) праверыць школу. Увечары, пасля заняткаў, яна прапанавала настаўнікам напісаць дыктант. Змест: «Паход Ванды Васілеўскай». Гэты дыктант адпавядаў ведам вучняў 5 клясы. Настаўніца рускай мовы зрабіла каля 15 памылак. Адзін толькі ваенрук і я напісалі без памылак.

Восенню ў гэтым саўгасе я прымала ад камбайнаў пшаніцу. Тут жа на полі пад навесам яе ачышчалі, грузілі на машыны і адвозілі на пункты здачы дзяржаве. Такім чынам, праз мае рукі праходзілі сотні тон пшаніцы. Аднаго разу мяне абвінавацілі ў недастачы больш дзесяці тон пшаніцы. Пагражалі турмой, якой мне зусім не было страшна. Я была на полі. За мной прыслалі падводу. Калі я ўвайшла ў кантору, то ўсё начальства і камэндант над перасяленцамі з Каласоўкі чакалі мяне. Першае пытанне галоўнага бухгалтара было такое: дзе я падзела пшаніцу? Што можна было на гэта адказаць? Я сказала, што адправіла ў Латвію. Камэндант прапанаваў мне падлічыць. Я падлічыла па накладных, і ўсё было правідлова. Зноў прышлося ехаць на месца працы.

Я ўвесь час старалася вырвацца з гэтага балота. Адпускаць яны мяне і ня думалі. Нягледзячы на гэта, я, маці і сястра выехалі з саўгаса, не пражыўшы ў ім і года. Мы пераехалі ў Саргацкі раён, у Ніжне-Іртышскі племсаўгас, які знаходзіўся на беразе Іртыша. У саўгасе быў парк. Хаты былі лепшыя, было чысцей, людзі таксама былі больш культурныя. З перасяленцаў было больш інтэлігенцыі. Дырэктарам саўгаса быў Харашун Кірыла Аляксандравіч, добры гаспадар і нядрэнны чалавек. Да перасяленцаў адносіўся па-людску і нават паважаў іх. Я працавала ў канторы, вяла ўлік статку. Вяліся племянныя кнігі. Некаторыя з кароў-рэкардыстак давалі па 5—6 тысяч кілаграмаў малака за лактацыю. Маладняк вывозіўся ва ўсе канцы СССР для паляпшэння статку.

З перасяленцаў і тут былі амаль усе беларусы, але нас называлі латышамі. Перасяленцаў-латышоў амаль не было. І хоць яны мелі ў Латвіі вельмі вялікія ўчасткі зямлі і былі багатыя, перасяленне іх не закранула: за ўсё адказалі беларусы.

Пасля працы і асабліва ў выхадныя дні мы ішлі на бераг Іртыша, успаміналі Даўгаву. Яшчэ больш стаў зразумелы верш «Слуцкія ткачыхі», бо і нашы думкі імкнуліся міма волі туды, дзе буяе збожжа і цвітуць васількі.

Аднаго разу дзяўчына з Прыдруйшчыны рашыла пераплыць на другі бераг Іртыша. Мы яе вельмі прасілі гэтага нэ рабіць, але яна сказала, што тапіцца яна ня будзе, а калі патоне, дык шкадаваць няма чаго: жыцця ёй ня шкода. Яна ўвайшла ў ваду, пастаяла крыху і паплыла. Пераплыўшы на другі бок, яна крыху адпачыла і прыплыла назад. Гэтага рабіць ёй нэ было патрэбы, але ўсё ж такі гэта была мужнасць. Пасля гэтага мы менш хадзілі да Іртыша. Здаваўся ён нам страшным нават тады, калі прыходзілася па справах ехаць на параходзе ў Омск.

Працяг. Пачатак у № 40—43.

[1] Паводле рашэння Савета Міністраў Латвійскай ССР ад 17 сакавіка 1949 года, з Латвіі без суда і следства 25 сакавіка 1949 г. было вывезена ў Сібір 43 231 чалавек (каля 2,3 працэнта), у тым ліку 9 250 так званых сем'яў кулакоў (другія падлікі паказваюць, што было вывезена 50 тысяч сялян).

**UNIVERSITĀTES AULĀ**

Otrdien, 1943. g. 28. septembri plkst. 19

*Baltrutēņu dziedātāja*

*Michaila Zabeidas-Sumicka*

**KONCERTS**

PROGRAMMA: **Pie klavierēm: Jānis Suchovs**

| | |
|---|---|
| Caccini | Amarilli (Šūpļa dziesma) |
| Carissimi | Vittoria (Uzvara) |
| R. Schumann | Svešumā |
| W. A. Mozart | Šūpļa dziesma |
| L. v. Beethoven | Es mīlu tevi |
| Ţurankou | Dziesma no baltrutēņu operas «Laimes ziediņš» |
| P. Čaikovskis | Ļenska ārija no op. «Jevgeņijs Oņegins» |
| Stetcenko | Vakara dziesma |
| | *Starpbrīdis* |
| | Baltrutēņu tautas dziesmas: |
| Grečaņinov | Lidoja žagata |
| Kasuro | Jaunais ozoliņš |
| Galkovski | Kūkoja dzeguze |
| Turankov | Kad nomira māmuliņa |
| Galkovski | Mana dūda |
| Galkovski | Mans vīna dārzs |

**Riko: Otto Krolla mākslas aģentūra, v.-d.-Goltz'a gatvē 2**





**НА ЗДЫМКАХ:** праграма канцэрта М. Забэйды-Суміцкага ў Латвіі; настаўніцкі самадзейны аркестр выступае ў Залескай школе. У другім радзе (у цэнтры) К. ЕЗАВІТАЎ. У трэцім радзе (другі злева) — І. ДВАРЧАНІН; Э. КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ са сваімі вучнямі.

## У ПАЭЗІІ НЯМА ПРАВІНЦЫІ

# ЗАВІТАЙЦЕ Ў МОЙ ХРАМ...

Я веру ў тое, што вершы дапамогуць жыць. Таму падзеліць чалавек вершы на сапраўдныя і ўсе астатнія. У гэтым — бессмяротнасць паэзіі. Паэты такія розныя. Яны фармуюць са слоў нешта большае, чым складаныя сказы, бо вершы поўняцца духоўным светам творцы. Сутнасць чалавека застаецца ў вершах. Хто ведае, чаму апошнім часам з'явілася столькі мастакоў, акцёраў, паэтаў? Наша зямля не выключэнне — яна праменіцца талентамі. Многія толькі яшчэ ідуць да свайго народа, і хай гэтая дарога будзе простай для іх.

У 1991 годзе ў раённым горадзе Паставы быў выдадзены зборнік паэзіі «Рунь», дзе змешчаны вершы семнаццаці паэтаў. Для многіх з іх той зборнік быў першым. Ён атрымаўся складаным, багатым на тэмы, настроі, ідэі. Ён напоўнены чалавечым шматгалоссем. Пасля яго выйшла «Рунь-92». Ахапіць усю шматмернасць зборнікаў немагчыма. Але нават асобныя аспекты «Руні» надзвычай прыцягальныя. Дык хай гучыць Паэзія — гэта сапраўдныя скарбы. Тут ёсць дасканаласць і прыгажосць, як, напрыклад, у І. Пракаповіча:

**Мой храм — Беларусь.**
**Там ні п'яніц няма, ні забойцаў.**
**Там святыя пачуцці**
**Лунаюць пад дахам нябёс.**
**Кожны вечар званы**
**ў храме плачуць пакутай і болем,**
**Каб у плачы душа**
**Ачышчалася горыччу слёз.**
**У тым храме маім**
**Ёсць магілы славутых герояў,**
**Што за родны свой край**
**Палеглі у сырую зямлю.**
**Я не ведаю ўсіх**
**Ні філосафаў нашых, ні вояў,**
**Што, каб храм ратаваць,**
**Праз пакуты і вогнішчы йшлі.**
**Завітайце ў мой храм.**
**Без карыслівых думак і дзеяў.**
**Свае душы адкрыйце,**
**Каб чуць, як заплачуць званы,**
**Бо праз слёзы і боль**
**Нараджаецца ў сэрцы надзея,**
**Што за смех і падман,**
**За Радзіму адпомсцяць сыны...**

Гэта высокая рамантыка, сплеценая з адчуваннем гісторыі. Гэта спроба наблізіць ідэал. Такая спроба нараджае праўду. У размове Ігар Пракаповіч, паэт і настаўнік, сказаў пра сябе прыкладна наступнае: «Паэзія — гэта нешта больш сур'ёзнае, чым гульня... Калі сталееш, пачынаеш разумець, адкуль ідзе ўся дурасць людская. І пачынаеш пісаць...» Напэўна, такі настрой нарадзіў «Маналог крывіча»:

**Я крывіцкай крыві,**
**Я з сыноў Перуна,**
**Я з эпохі паэтаў і вояў.**
**Ужо на пляцы агнём**
**Выгарае зямля,**
**І званы, як заклятыя, звоняць.**

Мы прарастаем праз мінулае. Гісторыя нечым прыцягвае — мы шукаем аснову. Аднак ёсць яшчэ адна Беларусь, якую выявіць могуць толькі паэты. Беларусь — казка, адвечная душа зямлі:

**У блакітных вачах Беларусі**
**Дабрыні патаемная сіла...**
**Мірна ходзіць балотамі бусел,**
**Ціха спее у яры каліна...**

У прыродзе існуе інтымная лірыка. Гэта наймацнейшы спосаб перадаць пачуццё з дапамогай нейкіх знешніх атрыбутаў. У «Руні-92» мы знойдзем бліскучае пацвярджэнне гэтаму:

**Завіруха — мастак непаўторны.**
**Ён асеплены сёння натхненнем,**
**Хіба колер павінен быць чорным,**
**Калі шчасце — у белым адзенні!**

Я хачу зразумець таямніцу паэтаў.

— Што трэба, каб матэрыялізаваўся верш?— пытаюся ў Ігара Пракаповіча.

— Бывае па-рознаму: можа ўзнікнуць вобраз, можа жыццё падштурхнуць, а бывае, што надоўга застаецца нешта ўнутры, і верш узнікае, калі нават вонкава нічога не адбываецца. Наогул, аб гэтым ёсць шмат думак. Кажуць, што космас — гэта плыні энергій, якія ідуць да Зямлі. І чалавек, як антэна, ловіць нейкія зрухі, адгукаецца на ўплыў прасторы. Можа і вось так — вершамі?..

Першае, што можна адзначыць у паэзіі пастаўскага краю — яе інтэлектуальнасць, эстэтызаванае слова. Калісьці гэтак пісаў Багдановіч. Гэта характэрна для ўсіх, хаця творчая манера ў кожнага паэта не падобная да астатніх.

Наступны аўтар — Леанід Трубач. Яго «Трыялет» — дасканалае спалучэнне асацыятыўнасці, тонкай эмацыянальнасці і задуменнай інтанацыі:

**Аціхне боль пад белай поўняй,**
**І золак чырванню адорыць.**
**З нашчадкам продак загаворыць —**
**Аціхне боль пад белай поўняй.**
**Шлях да сябе такі няроўны:**
**Смяецца шчасце, ціснe гора...**
**Аціхне боль пад белай поўняй,**
**І золак чырванню адорыць.**

Уладзімір Караткевіч калісьці пісаў, што на Беларусі кожны другі — паэт. Перад вамі яшчэ адна нечаканасць. Зірніце на дасканаласць рытмікі радкоў:

**Сваёй кроўнай зямлю адчуй,**
**Палюбі яе травы і росы,**
**На паляне той заначуй,**
**Дзе нядаўна звінелі косы...**

Або — іншы матыў:

**Галубоў вуркатанне**
**Сэрца слухае ў суме.**
**Гэта чыстае ранне —**
**Як вясковыя думы.**

Радкі напісала Таццяна Гінько. Іх абаяльнасць — ад шчырасці пачуцця. Яна піша, як дыхае. Тут ёсць праўда, бо паэт ідзе ад жыцця. Таццяна Гінько жыве ў вёсцы і працуе даяркай. Здаецца, якія могуць быць падзелы на ўзроўні, калі наш чалавек, жывучы ў калгасе, піша вершы так чыста, як класік, і мудра, як філосаф? Нешта прыўкраснае ёсць у нашым народзе, каб вось так нечакана плеснуць з глыбіняў і стаць мастацтвам.

Людміле Сіманенак 17 год. У маладосці асабліва абвострана адчувае чалавек повязь са светам:

**Калі восень зіму пачынае гукаць**
**І дажджы ціха плачуць над гаем,**
**Ты прыслухайся, дружа, то нават чуваць,**
**Як лістота на дол ападае.**
**І глядзець, не глядзець, толькі сэрцам адчуць,**
**Як пусцеюць лугі і галінкі,**
**Як, сшываючы неба з зямлёю, снуюць**
**Хмурнай восені шэрыя ніткі...**

Вытанчаны лірызм верша не можа быць падроблены знарок або злоўлены выпадкова. Гэта ўласцівасць сапраўднага паэта, дар рэдкі і каштоўны.

Аб нашай зямлі пяюць і свае, і прышэльцы, што сталі тут роднымі. Фёдар Панцялееў родам з Дона, піша на рускай мове, а, прыйшоўшы ў «Світанак», пачаў пісаць па-беларуску. Дарэчы, ім упершыню на Беларусі напісана Катабаза (у старажытнасці — твор аб узыходжанні на той свет). Катабаза сёння — гэта «спроба апісаць пачуцці, перажытыя на рэанімацыйным стале»: аўтар калісьці перанёс стан клінічнай смерці. Катабаза — філасофскі твор пра сэнс чалавечага жыцця, будову свету, прызначэнне маралі:

**Сестра, я призван**
**стать поэтом,**
**и благовестом тонких строк**
**открыть, что быть Вселенским светом**
**Душе, отринувшей порок...**
**До невозможного огромен,**
**Свет воссиял таким огнем,**
**Что рядом с Ним —**
**Ярило темен.**
**Темней,**
**чем полночь рядом с днём...**
**А я, как Свет**
**неорганичен,**
**уже ничем не уязвим,**
**ничем уже не ограничен.**
**Приник к нему**
**и слился с ним.**
**И ни постичь нас, ни измерить.**
**Но — в Нем,**
**я вроде бы и — вне.**
**Кто в триединство Бога верит,**
**не может не поверить мне...**

Літаб'яднанне «Світанак» мела рацыю, выдаўшы вершы. «Рунь» прынясе людзям радасць. Самвыдатам, склаўшыся па некалькі сот рублёў, у раённай друкарні зборнікі выдалі тыражамі па 999 экземпляраў кожны.

Літаб'яднанне склалася ў апошнія гады вакол супрацоўніка газеты «Пастаўскі край», таксама паэта, Алеся Касценя, які працуе апошнім часам, «як апантаны». Гэта ён займаецца выданнем «Руні». Яго творчасць настолькі змястоўная, што ў двух словах аб ёй не раскажаш. Цалкам вершы А. Касценя вызначае тое, што мы называем «новым мысленнем». Тут і новае бачанне рэчаў, і аспрэчванне старых схем і міфаў «грамадскай думкі», ідэалогіі, ён піша пра рэлігію, пацыфізм, хібы калгасаў, мараль у правінцыі...

Літаб'яднанне «Світанак», як і ўсе арганізацыі такога тыпу, праводзіць пасяджэнні раз у месяц. «Світанак» прапагандуе беларускасць. Сябры аб'яднання выступаюць у школах і калгасах. Іх запісвала Віцебскае тэлебачанне, Рэспубліканскім радыё пасля выхаду «Руні» было запісана іх выступленне. Пачынаецца складанне «Руні-93». Так выглядае жыццё аб'яднання звонку. А паэтам застаецца праца. «Кожны паэт ціха працуе сам з сабою»,— усміхаецца Ігар Пракаповіч. Ён кажа, што на Пастаўшчыне шмат хто мог бы выдаваць свае кнігі. У «Світанку» ў некаторых набралася б на кніжку вершаў. «У Панцялеева — стосы вершаў. У мяне — можа на чатыры кніжкі ляжыць у папках. «Бібліятэчка «Маладосці» нешта не спяшаецца выдаваць тое, што адаслаў. Нічога, будзе «Рунь-93»... Астатняе? Хай сабе ляжыць. Не сапсуецца»... — Так выглядаў канец нашай размовы. Але не хочацца сумнага канца. Нават ненадрукаваны паэт — гэта скарб краіны. Мастацтва і чалавек павінны застацца побач.

Наталля ЖУК.

## ТЭМА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ Ў РАБОТАХ МАСТАКА



**Мастаком Уладзімірам Крываблоцкім створаны роспіс ва Ушацкім музеі народнай славы, мазаічнае пано-трыпціх у Брэсце. Гэтыя работы сталі значнай з'явай як у выяўленчым мастацтве, так і ў станковым жывапісе.**

**Тэма нацыянальнага Адраджэння захапіла мастака шмат гадоў таму, калі пра гэта не гаварылі ў поўны голас, так, як сёння. Нават у дыпломнай рабоце, якую У. Крываблоцкі выдатна абараніў пятнаццаць гадоў назад, была першая спроба сказаць сваё слова. Аднак рэалізаваць у канкрэтнай архітэктурнай сітуацыі яе не дазволілі.**



**Час для рэалізацыі мастакоўскіх задум наступіў сёлета, нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы. Як першы станоўчы прыклад прыемна адзначыць рашэнне гарадскіх улад Салігорска даручыць мастаку Уладзіміру Крываблоцкаму зрабіць велічнае мазаічнае пано-трыпціх на трох вышынных дамах. Зараз поўным ходам ідзе праца над тарцом першага дома, майстры-выканаўцы мінскага мастацка-вытворчага камбіната рознакаляровай смальтай выконваюць задуму мастака. Пра што распавядае першая велічная мазаічная кампазіцыя! Гэта цяжкі шлях да страчанага, вяртанне да сваіх каранёў, якія жывяць нашы духоўныя памкненні да высокага і існага.**

Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.

# БЕЛАРУС—УСЮДЫ БЕЛАРУС

«Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якая выходзіць у Беластоку, папоўнілася шостай кніжкай. Ёю стаў паэтычны зборнік Яна Чыквіна «Кругавая чара».

Аўтар дэбютаваў у 1969 годзе кнігай «Іду», праз год выйшла «Святая студня», у 1977 годзе — кніга «Неспакой». У прадмове да яе адзначалася: «Чыквінскі верш... З ім трэба размаўляць у цішы, адагнаўшы ад сябе віскліваe ганьё штодзённыхчыны, тэлевізарна-газетныя эмоцыі. Каб аднавіць сябе, не здрабнець!»

Такая ацэнка яшчэ больш стасуецца да зборніка «Кругавая чара» (дарэчы, заўважым, што кніга цудоўна выдадзена, з каляровымі малюнкамі, партрэтам аўтара, факсіміле аднаго верша). Я. Чыквін запрашае ў вершах задумацца над хуткаплыннасцю часу, пазбавіцца ўсяго другаснага, выпадковага. Праграмным успрымаецца верш «Крык начной савы»:

**Што ёсць быццё? Што —**
**чалавек? Што — Бог?**
**Чаму нікому нельга лёсу**
**перайначыць?**
**Не адсумуе смутак нашых усіх**
**зямных трывог —**
**З вачэй злятае белы голуб**
**плачу.**

Да спрадвечных ісцін, што такое дабро, зло, справядлівасць, Я. Чыквін прыходзіць праз сумненні, развагі, пошукі свайго месца на зямлі і самога сябе.

Адным словам, лірычны герой паэта — наш сучаснік, беларус, які, дзе б ні жыў, мае свой твар, свой нацыянальны характар.

# II. РАГАЧОЎ: АСНОЎНЫЯ ВЕХІ СТАРАДАЎНЯЙ ГІСТОРЫІ

Аматары гісторыі, безумоўна, звярнулі ўвагу на тое, што Рагачоў і Гомель згадваюцца ў летапісах пад адным годам — 1142-м. У такім супадзенні няма нічога дзіўнага, бо згадкі пра два гэтыя цэнтры паўднёва-ўсходняй Беларусі звязаны з адной і той жа падзеяй.

У 1142 годзе прадстаўнікі адной з магутных і ўплывовых княжацкіх «галін» на Русі — Ольгавічы, якім традыцыйна належала Чарнігаўска-Северская зямля і зрэдку — Кіеўскае княства, вымушаны былі забыць узаемныя спрэчкі і тэрмінова аб'яднацца, каб адстаяць кіеўскі стол перад рэальнай пагрозай з боку прадстаўнікоў іншага княжацкага роду — Манамахавічаў (крывавая і бязлітасная барацьба Ольгавічаў і Манамахавічаў уцягвае ў супрацьстаянне амаль усе рускія землі).

З 1139 года на кіеўскім стале сядзеў Усевалад Ольгавіч. Чарнігаўскім князем з'яўляўся яго брат Ігар Ольгавіч. У Ноўгарадзе-Северскім княжыў Святаслаў Ольгавіч. Дружыны Ольгавічаў рыхтаваліся да бітвы з войскамі сына Уладзіміра Манамаха — Вячаслава і ўнука Ізяслава Мсціславіча. Родны брат апошняга — смаленскі князь Расціслаў імкліва ўвайшоў у межы ўладанняў чарнігаўскіх князёў і захапіў Гомельскую воласць (так быў упамянуты Гомель).

У канцы 1142 года скончыліся і ўзаемныя спрэчкі саміх Ольгавічаў за валасці. Ігар і Святаслаў Ольгавічы, у прыватнасці, патрабавалі ад кіеўскага правіцеля Усевалада, каб той даў ім частку сваіх зямель, прычым, не толькі ў Чарнігаўска-Северскіх межах. І вось, Святаслаў атрымаў гарады Чартарыеск і Клечаск (Клецк) у Валынскай зямлі і на старажытнай тэрыторыі дрыгавічоў, а Ігар Ольгавіч, які ў той час валодаў Гомелем, атрымаў Гарадзец на рацэ Асцёр і Рагачоў на Дняпры. Вось так быў упамянуты сённяшні райцэнтр Гомельскай вобласці. Як бачым, быў упамянуты выпадкова, у сувязі з княжацкімі сваркамі.

Далейшая гісторыя горада вядома таксама толькі ў фрагментах. У час княжэння Ольгерда (1341—1377), прыкладна ў 50-я гады XIV стагоддзя, Рагачоў разам з Воршай, Мсціслаўем, Прапойскам, Чачэрскам, Гомелем увайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Трэба сказаць, што ўваходжанне Рагачова, як і іншых гарадоў, у склад гэтай дзяржавы адбылося без асаблівых крывавых сутычак і бітваў, хоць, зразумела, і ваеннай сілай. Вялікія князі Гедымін і Ольгерд звяргалі з княжацкіх сталоў прадстаўнікоў спрадвечнай дынастыі Рурыкавічаў і назаўсёды пазбаўлялі іх магчымасці зноў прэтэндаваць на княжэнне. Новая дынастыя — Гедымінавічаў — такім чынам зацвярджала сваё права і сваю ўладу.

Тым не менш, кожная воласць былой Старажытнай Русі, якая ўваходзіла ў склад новай дзяржавы, яшчэ доўгі час не адыходзіла ад сваіх старых традыцый і зберагала свой твар. Як зазначае Ус. Ігнатоўскі, у аснове ўсіх грамат літоўска-беларускіх гаспадароў, якія даваліся асобным гарадам і валасцям, заўсёды можна знайсці такія словы: «Гаспадар старыны не нарушае і навіны не ўводзе». З самага пачатку існавання Вялікае княства Літоўскае было, скажам так, больш «дэмакратычным», чым суседняя Маскоўская дзяржава. У апошняй з самага моманту яе зараджэння існавала тэндэнцыя да ўстанаўлення моцнай цэнтралізаванай улады. Вялікае ж княства Літоўскае ўяўляла сабой феадальную федэрацыю, у межах якой захоўвалася аўтаномія асобных зямель-княстваў.

Аднак знешняя палітыка абодвух дзяржаў была аднолькавай. У 1358 годзе князь Ольгерд заявіў паслам імператара Карла IV Люксембурга: «Уся Русь павінна належаць Вялікаму княству Літоўскаму». Такую ж праграму абвясціў пасля 1480 года, пасля канчатковага вызвалення ад татарскага іга, вялікі маскоўскі князь Іван III: «Вся Русская земля Божею волею из старины наша вотчина». Сутыкненне дзвюх дзяржаў было непазбежным. Змаганне пачалося з канца XIV стагоддзя, калі абедзве дзяржавы спаткаліся сваімі межамі, але сапраўдная вайна, крывавая, жорсткая, бязлітасная з абодвух бакоў, пачалася толькі праз стагоддзе, калі Масковія ў рэшце рэшт набралася моцы. Маскоўскія гаспадары адчувалі сябе абдзеленымі. Літоўскія гаспадары, якія сабралі да гэтага часу ўсе тыя ўсходнеславянскія землі, якія не ў стане былі праводзіць самастойную палітыку і не маглі абараніць сваё насельніцтва, забяспечыць яму мір і роскві, дзяліцца не збіраліся. Усё гэта дазваляе больш наглядна ўявіць гісторыю Рагачова і іншых усходнебеларускіх гарадоў, якія апынуліся ў прыгранічнай зоне, у паласе спрэчак і канфліктаў.

У 1492 годзе маскоўскі гаспадар Іван III накіраваў да польскага караля і вялікага князя Літоўскага Казіміра свайго асабістага пасла Івана Беклемішава з мэтай, каб той угаварыў Казіміра аддаць Рагачоў Масковіі. Аднак І. Беклемішаў прыбыў у Кракаў акурат у той час, калі кароль і вялікі князь ляжаў на смяротным ложы. Новы ўладар беларуска-літоўскай дзяржавы і Польшчы Аляксандр не жадаў і слухаць угаворы Іванавых паслоў.

У гэтым жа, 1492 годзе, Іван III пачаў вайну за сваю «вотчыну». Маскоўскія ваяводы Васіль Лапін і Андрэй Істома з дапамогай атрадаў крымскага хана Менглі-Гірэя захапілі Рагачоў, спалілі яго дашчэнту, а жыхароў пацягнулі ў вялікай колькасці ў няволю, у межы Масковіі, а таксама ў Крым. Былі захоплены і іншыя пасяленні, але іх, акрамя Мсціслаўя, давялося вярнуць Вялікаму княству, бо гэтага патрабаваў мірны дагавор.

У 1500 годзе зноў пачалася вайна (ранняй вясной гэтага года гомельскі правіцель Сямён Мажайскі «адпаў» ад Вялікага княства і прысягнуў Маскве). Тры гады льецца кроў. Гомель і некаторыя пасяленні ў Рагачоўскім павеце застаюцца за Масковіяй. Рагачоў не згадваецца, але гэта не значыць, што вайна не закранула гарадок. У 1508 годзе, а потым у 1513 годзе — зноў вайна, зноў Рагачоў, як, дарэчы, і Мсціслаўе, Гомель, Ворша, Магілёў, руйнуюцца па некалькі разоў. Войны на тэрыторыі Усходняй Беларусі аднаўляліся ў 1516, 1518, 1519, 1534, 1536 гадах...

У 1561 годзе войскі цара Івана IV (Грознага) увайшлі на тэрыторыю Беларусі. У 1563 годзе Іван Грозны заявіў паслам Вялікага княства Літоўскага наступнае: «За каралём (Сігізмундам Аўгустам.— А. Р.) наша вотчына спрадвечная — Кіеў, Валынская зямля, Полацк, Віцебск і шматлікія іншыя гарады рускія, а Гомель бацька яго ўзяў у нас у часы нашага маленства; дык ці варта з каралём зараз вечны мір заключаць?» Так мог сказаць толькі нашчадак Рурыкава роду. Ён бачыў сваю «праўду», літоўскія ўладары — сваю. А ў выніку — зноў крывавая вайна, вядомая ў гісторыі пад назвай Лівонская.

Трэба сказаць, што гісторыя Рагачова XVI—XVII стагоддзяў амаль цалкам складаецца з... разарэнняў падчас ваенных дзеянняў. Нават калі і не было ваенных дзеянняў непасрэдна паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам (з 1569 года — Рэччу Паспалітай), Рагачоў і суседнія з ім гарады ўсё роўна разараліся. У пачатку XVII стагоддзя, у перыяд «смутнага часу» для Маскоўскай дзяржавы, на працягу 7 гадоў польскія войскі беспераппынна рухаліся у бок Масквы і назад і, зразумела, «карміліся» з беларускіх пасяленняў і гарадоў. У пачатку XVIII стагоддзя Усходнюю Беларусь закранула Паўночная вайна: рускі цар Пётр Першы вёў ваенныя дзеянні на чужой тэрыторыі.

Адсюль зразумела, чаму Рагачоў, нягледзячы на сваё выгаднае геаграфічнае становішча, не здолеў развіцца як горад. Ён да самага далучэння да Расіі ў 1772 годзе з'яўляўся, хутчэй, крэпасцю, умацаваным мястэчкам. Тым не менш, Рагачоў лічыўся гандлёвай «кропкай» на Дняпры і нават карыстаўся прывілеямі Магдэбургскага права. У XV стагоддзі гарадок належаў да ўдзела князёў пінскіх, а ў пачатку XVI стагоддзя, згодна з завяшчаннем апошняга пінскага князя Фёдара Яраславіча і жонкі яго Алены, перайшоў у лік каралеўскіх валасцей і з той пары лічыўся цэнтрам старства.

Тое, што ўяўляў сабой Рагачоў непасрэдна пасля далучэння да Расіі, бачна з матэрыялаў «Нового и полного географического Словаря Российского государства, или Лексикона...»: Рагачоў — горад Магілёўскага намесніцтва з 1772 года; мае невялікі замак на ўзвышаным месцы, абнесены земляным валам і частаколам; у горадзе — адна Грэчаская і дзве Уніяцкія царквы; насельніцтва — 326 чалавек». Як бачым, сапраўды — замак, умацаваная крэпасць, а не горад...

У 1772 годзе Імператрыца Кацярына Другая загадала ўзвесці ў Рагачове новую крэпасць. Але ні тады, ні ў 1782 годзе, калі Кацярына зноў «успомніла» пра свой загад, крэпасць у горадзе пабудавана не была. Яна была проста непатрэбнай...

З 1777 года Рагачоў лічыўся павятовым цэнтрам. У 1778 годзе быў зацверджаны план горада, і з гэтага часу пачалася зусім новая гісторыя старажытнага пасялення над Дняпром.

У канцы XIX стагоддзя Рагачоў быў звычайным павятовым цэнтрам. Гэта вынікае з апісання, дадзенага ў даследаванні «Опыт описания Могилевской губернии»... (кнігі 1—3.— Магілёў, 1882—1884), выдадзеным пад рэдакцыяй А. С. Дэмбавецкага. У 1880 годзе ў Рагачове насельніцтва складалася з 2 234 чалавек мужчынскага полу і 2 203 чалавек жаночага полу, з якіх праваслаўных — 1 306/1 264; раскольнікаў-старавераў — 8/11; каталікоў — 88/83; яўрэяў — 832/845 чалавек (заўважым, што паводле перапісу 1897 года ў Рагачове жыло 9 038 чалавек). У 80-я гады XIX стагоддзя ў горадзе, акрамя звычайных павятовых адміністрацыйных устаноў, меліся тэлеграфная станцыя, правінцыяльны магазін, дваранская апека, а таксама заводы— канатны, піваварны, мылаварныя, два скураныя і два цагельныя; два млыны — паравы і ветраны; прыстань на Дняпры; гарадское трохкласнае вучылішча, прыходскае вучылішча з жаночай зменай і прыватны жаночы пансіён.

Хуткае развіццё Рагачова пачалося ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя, пасля пракладкі ў 1902 годзе праз горад чыгуначнай лініі Магілёў—Жлобін. Так, у 1905 годзе ў Рагачове мелася 36 прамысловых прадпрыемстваў («заводзікаў») са 173 рабочымі. Жыхароў налічвалася 11.800 чалавек (з іх яўрэяў — 7.140 чалавек). У 1913 годзе ў горадзе было ўжо 50 прадпрыемстваў са 185 рабочымі. Горад набліжаўся да свайго роскві...

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**



**З задавальненнем, па-майстэрску выконваюць вальс, тэмпераментную румбу і старадаўні факстрот брэсцкія хлапчукі і дзяўчынкі з ансамбля сучаснага бальнага танца гарадскога Палаца культуры прафсаюзаў. Навучаюць дзяцей муж і жонка Ірына і Мікалай Бегановічы. Зусім нядаўна ансамблю прысвоена званне ўзорнага.**

**Цяпер юныя танцоры рыхтуюць вялікую канцэртную праграму, з якой выедуць за мяжу.**

**НА ЗДЫМКУ: самыя юныя ўдзельнікі ансамбля трэцякласніца Наташа ФІЛІМОНАВА і чацвёртакласнік Саша БЕГАНОВІЧ.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

## ЗОРНЫ ЧАС СПЕВАКА

Нядаўна вярнуўся з Вільнюса спявак Андрэй Хлястоў. Другі раз ён прымаў удзел у міжнародным фестывалі поп-песні, які праводзіцца ў літоўскай сталіцы.

Сёлета Андрэй Хлястоў быў запрошаны ў якасці пачэснага госця. У мінулым годзе малады спявак удзельнічаў у конкурснай праграме, заняў чацвёртае месца, атрымаў прыз глядацкіх сімпатый і шматлікія спонсарскія ўзнагароды. Там яго ўбачыў дырэктар Сопацкага фестывалю Войцех Кажанеўскі і запрасіў ў Польшчу. Андрэй Хлястоў спраўдзіў спадзяванні польскага прадзюсера і беларускіх аматараў эстраднай песні, заняўшы ў Сопаце чацвёртае месца.

У Вільнюсе адбылася яшчэ адна цікавая сустрэча. Спявак быў запрошаны прадзюсерам у Турцыю на міжнародны фестываль, які адбудзецца летам 1993 года ў горадзе Чэшма.

**Здольнасці да малявання Гелена Цыгер — жыхарка Навагрудка — выпадкова адкрыла ў сабе ўжо пасля сямідзесяці гадоў. Больш за трыццаць гадоў яна працавала настаўніцай пачатковых класаў. Ужо на пенсіі, аднойчы паспрабавала маляваць. Прафесіяналы-мастакі адобрылі першыя работы Гелены Францаўны. Паступова прыйшло і прызнанне. Цяпер палотны Г. Цыгер выстаўляюцца на вернісажах у Навагрудку і Гродне, набылі іх музеі. А Гелена Францаўна, нягледзячы на свой паважны ўзрост (ёй 79 гадоў), поўная сіл, цікавых творчых планаў.**

**НА ЗДЫМКУ: Гелена ЦЫГЕР са сваімі работамі.**

**Фота Э. КАБЯКА.**



## ДЛЯ ДЗЕТАК-МАЛАЛЕТАК

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку выпусціла кнігу Віктара Шведа «Вясёлка» — своеасаблівае выбранае адзінага паэта ў Польшчы, які пастаянна піша для дзяцей па-беларуску. Дзеткі-беларусы маглі пазнаёміцца з яго творчасцю па зборніку «Дружба», што пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» яшчэ ў 1976 годзе.

«Вясёлку» ж склалі некалькі зборнікаў, яна быццам з дзвюх самастойных кніжак. Першая — «Падляшша». Другая кніжка — «Смяшынкі».

В. Швед прымае той дыдактызм, які дазваляе прывіваць юным чытачам павагу да ўсяго беларускага, вучыць любіць наваколле, зямлю, людзей на ёй.

## МАРЫЯ ГУЛЕГІНА Ў МІНСКУ

14 кастрычніка ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь адбыўся канцэрт вядомай опернай «зоркі» Марыі Гулегінай.

Спявачка паспяхова выступае на сцэнах Нью-Йорка, Вены, Фларэнцыі, Лондана, Мюнхена, Сан-Францыска. У Мінску, горадзе, дзе адбылося яе творчае станаўленне і жыхаркай якога яна сябе лічыць, Марыя Гулегіна дала дабрачынны канцэрт на карысць дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

*ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА*




**2 кастрычніка, пятніца**

## МАРЫ ПРА СВАБОДУ

Вясною 1849 года ў Віленскай турме памёр ад сухотаў трыццацігадовы вязень Аляксандр Незабытоўскі. Незадоўга да смерці ён быў засуджаны да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і 20-гадовай катаргі ў сібірскіх капальнях. Так у тагачаснай Расіі судзілі самых небяспечных злачынцаў.

Незабытоўскі быў абвінавачаны ў тым, што ганьбаваў спосаб кіравання ў імперыі; дзікімі лаянкамі зневажаў гасудара імператара і іншых асоб дома Раманавых, як «ныне здравствующих», так і «почивших во бозе»; заклікаў да стварэння таемных таварыстваў і паўстання жыхароў усіх плямён, станаў і веравызванняў; выяўляў зацятую варожасць да манархіі і любоў да рэспублікі...

Яго судзілі не за дзеянні, а толькі за Слова. Пяру беларускага дваравіна з-пад Нясвіжа А. Незабытоўскага належыць некалькі выдадзеных ананімна ў Вільні і ў Парыжы кніг. Сярод іх мемуары «Мае запіскі», прысвечаныя нацыянальна-вызваленчаму паўстанню 1830—1831 гадоў у Польшчы, на Беларусі і ў Літве, і раман-утопія «Мары пра каханне, славу і свабоду», дзе апісвалася жыццё ў беларускіх губернях пасля перамогі народнай рэвалюцыі.

Трэцяе аддзяленне жорстка помсціла непакорлівым палітычным вязням нават пасля іх смерці. Рукапісы мужнага пісьменніка і публіцыста з рэвалюцыйнымі поглядамі надоўга трапілі ў жандарскія архівы, а некаторыя, магчыма, былі ўвогуле знішчаны. Яго імя магло кануць у Лету. На шчасце, даследаванні вядомага літаратуразнаўца С. Х. Александровіча вярнулі Незабытоўскага беларускай гісторыі. Трагічнае жыццё гэтага чалавека вартае нашай памяці і захаплення.

Уладзімір АРЛОЎ.

**31 кастрычніка, субота**

## ДЗЯДЫ

Як мудра рабілі нашыя продкі, калі ў асвячоныя традыцыяй дні, якія насілі назву Дзяды, маглі спыніцца, задумацца, хто ты, для чаго жывеш, адчуць, што ты не чужы на гэтай зямлі, бо ў цябе ёсць родныя магілы, куды можна і трэба прыйсці, у цябе ёсць дзеці, унукі, якія зробяць тое ж самае пасля тваёй смерці. Агульныя памінкі ў Беларусі, пры вялікай разнастайнасці мясцовых варыянтаў, праводзіліся ў асноўным у кожную пару года: вясной — радаўніца, «наўскі вялікдзень», летам — траецкія дзяды, восенню — змітраўскія дзяды, асяніны, зімой — масніічныя дзяды. У заходніх раёнах Беларусі памінкі былі два разы на год: вясной і восенню — у дзень Усіх святых, задушны дзень, што было звязана з уплывам каталіцтва. Вясной і летам памінкі адбываліся на могілках. Кожная сям'я напярэдадні прыбірала магілы сваіх родных і блізкіх, высаджвала кветкі.

Восеньскія і зімовыя дзяды кожная сям'я адзначала ў сваёй хаце. Да іх рыхтаваліся як да вялікага свята: прыбіралі хату, двор, гаспадарчыя пабудовы, гаспадыня гатавала разнастайныя стравы, у тым ліку і найбольш любімыя нябожчыкамі. Уся сям'я пад вечар збіралася разам, усе апраналі святочнае адзенне, за сталом панавала ўрачыстая абстаноўка. Гаспадар ці гаспадыня, памаліўшыся, запрашалі нябожчыкаў за стол, прычым не толькі сваіх блізкіх, але і тых, каму няма куды падацца ў гэты дзень: «Святыя дзяды! Завём вас, хадзіце да нас. Ёсць тут усё, што Бог даў, чым толькі хата багата. Просім вас — ляціце да нас!» Гаспадар запальваў свечку. Вячэра пачыналася са спецыяльнай абрадавай стравы — кануна, куцці. Частку страў у асобным посудзе ці непасрэдна на стале пакідалі для дзядоў. На ноч стол не прыбіралі, а толькі накрывалі чыстым абрусам. На Палессі частку памінальных страў выкідалі ў азёры, рэкі. Дзеці і падлеткі, якія прысутнічалі на памінках, засвойвалі традыцыйныя звычаі і абрады свайго народа, адчувалі прыналежнасць да пэўнага роду, сям'і, грамады.

Таццяна КУХАРОНАК.



Прападобная Ефрасіння Полацкая амаль вярнулася туды, дзе больш за восем стагоддзяў назад прайшло яе святое і карыснае людзям жыццё. Гэту сустрэчу наладзіў жыхарам старажытнага Полацка скульптар Леанід Яшэнка, які выставіў сваю работу на агляд жыхарам горада і чакае іх прысуду. Яна стаіць на беразе Заходняй Дзвіны каля Сафійскага сабора, у келлі якога манашка Ефрасіння вяла жыццё пустэльніцы, перапісвала царкоўныя кнігі і пісала арыгінальныя творы і летапісы.
Яшчэ ў пачатку лета на выставе ў мастацкай галерэі «Медэя» Леанід Яшэнка прыемна ўразіў гледачоў сваёй скульптурнай кампазіцыяй «Ефрасіння Полацкая». Тады ж паведамлялася, што ў канцы года па дамоўленасці з мясцовымі ўладамі горада гэта праца ператворыцца ў помнік. Здымак, які мы змяшчаем ў газеце, зроблены агенцтвам Белінфарм, і ў подпісе да яго ёсць словы пра тое, што калі на разліковы рахунак № 000142740 Віткамбанка паступіць дастаткова сродкаў, памяць Ефрасінні Полацкай будзе ўвекавечана ў граніце.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.

*ЗАМАЛЁЎКІ ВОСЕНІ*

**Восень! Як многа ўсяго ў гэтым слове: тут сум па адышоўшым леце; тут празрыстае паветра і подых холада; тут зялёныя лясы; тут зацяжныя нудныя дажджы і доўгія ночы. Але ёсць многа і прывабнага...**

### ЖУРБОТНЫЯ ГАЛАСЫ

Кароткі асенні дзянёк надзіва быў цёплым. Высокія шэрыя хмары ахінулі наваколле. У бярозавым гаі панавала празрыстасць, лісце ляжала тоўстым пакрывалам і шамацела пад нагамі. Праз голае вецце добра быў відаць бег хмар на небе. Яны плылі самі па сабе, але нам навявалі нейкі сум.

Дзесь з далечыні ледзь чутна далятала знаёмыя галасы. Я ўзняў галаву і ўбачыў: з-за лесу выплываў доўгі ключ жураўоў. Сумныя іх галасы мацнелі і напаўнялі наваколле. Я глядзеў, зачараваны гэтай звычайнай, але кожны раз непаўторнай, з'явай прыроды. У іх журботнай гамонцы мне чулася развітанне з родным краем. Яны, як і людзі, не ведалі, што чакае іх там, на чужыне.

Жалобныя гукі аддаляліся, а калі зусім зніклі, я падумаў: «Як іх галасы супадаюць з маім настроем. Восень падобна на жыццё чалавека, калі на скроні ляжа прыкметны замаразак».

### «БАБІНА ЛЕТА»

Познім вечарам угаманіліся, налятаўшыся, халодныя вятры і густы туман паплыў над Нёманам, нібы нейкі чараўнік аднекуль пускае густы чароўны дым. Ён накрыў лугавіну і, здавалася, назаўсёды.

Але з-пад туманнае раніцы на ўсходзе небасхіл паружавеў, і заўсміхалася сонца. Туман нібы прысеў на траву, і пачаўся сонечны сухі дзянёк. Дзесь пад поўдзень над лугам паляцелі рэдкія павуцінкі. Яны садзіліся на асаку і рабілі луг шэрым.

«Бабіна лета», — падумаў. Радасць нядоўгая. Яна скончыцца, і будуць лётаць халодныя сырыя вятры, пачнецца слота, цёмныя доўгія ночы, неспакой і сумота.

### ПЕРШЫ ВІЗІТ

Увесь дзень над Нёманам плылі грудкаватыя хмаркі. Паміж імі, хоць рэдка, выглядала скупое сонца. У такія хвіліны яго сумныя промні на момант мянялі фарбы лесу, што падышоў да берага, асвятлялі мяккую зеляніну хваін і ялін. Калі сонца хавалася за хмару, лес цямнеў, надыходзіў сум і неспакой. Толькі паміж дрэў зелянелі баравы мох і галінкі брусьнічніку. На версе гонкіх хваін ганарліва трымаліся густыя кроны. Яны, нібы ў казцы, лавілі апошнія промні сонца і пасылалі на мох свае цені.

На світанку выпагадзілася, і бадзёра завітаў першы марозік. Ён пасыпаў іней на аер і асаку, застудзіў спакойную ваду. Як толькі з-за лесу выглянула сонейка, яго промні заблішчэлі на тоненькім лядку. На лазовым кусце, што замацаваўся над вадою, сядзела адзінокая шэрая птушачка ў чорным берэце і нібы для сябе выводзіла сумную песеньку.

Мне падалося, што ў яе голасе было: «Як жа мне, маленькай, перажыць скорую зіму?»

Яўген КРАМКО.



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1936.
Падпісана да друку 26.10.1992.